
Віталь Луба пра «Бежанства»➔3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714


Хараство Палесся➔5

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 02 (3113) Год LXI Беласток, 10 студзеня 2016 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


**Ад гадоў сярэдзіна снежня стала традыцыйнай парой для правядзення літаратурнага семінара „Бязмежжа”, які ўжо ад некалькіх гадоў знайшоў сабе месца ў Новым Ляўкове, на хутары Лазовае. Сёлета ў васямнаццаты раз сабралася міжнародная кампанія літаратараў, перакладчыкаў, бардаў, даследчыкаў, выдаўцоў і распаўсюджвальнікаў кніг, мастакоў, журналістаў — творцаў з Беларусі і Польшчы, творцаў культуры, якая не мае межаў. У гэты раз літаратурны семінар сабраў іх на гасціннай зямлі Белавежжа і адбыўся 18-20 снежня, традыцыйна па запрашэнні галоўнага рэдактара тыднёвіка «Ніва» і старшыні Беларускага саюза ў Польшчы Яўгена Вапы, аднаго з пачынальнікаў гэтага творчага праекта: каб абмеркаваць, што важнае адбылося ў прасторы беларускай літаратуры ў 2015 годзе.**



# Беларускае па-над межамі

Як адзначыў Яўген Вапа, „Бязмежжа” гэта магчымасць падвядзення вынікаў года ў беларускай літаратуры як у Польшчы, так і ў самой Беларусі:

— Са старшынёю Саюза беларускіх пісьменнікаў Барысам Пятровічам ідзе плённая супраца і ўзаемаразуменне. Я хачу падзякаваць беларускім пісьменнікам, паэтам, якія, нягледзячы на вышыню свайго творчага патэнцыялу, дасягненняў, знаходзяць час, каб прыехаць да нас, на Беласточчыну, пабыць разам з намі, распавесці пра тое, што адбылося, і запланаваць пэўныя справы, якія можна зрабіць разам. Асновай семінара з'яўляюцца літаратурныя чытанні і прэзентацыі, між іншым, літаратурна-мастацкага рэпартажу на Беларускім Радыё Рацыя, тэлефільмаў ці „нўскага” рэпартажу Ганны Кандрацюк. Героямі з'яўляюцца людзі і месцы, якія сваім талентам увекавечваюць аўтары. Плёнам семінараў на працягу гадоў былі новыя кнігі — аўтарскія і пераклады, свой часопіс „Правінцыя”, разварушванне думкі і рэалізацыя новых планаў і задум, абмяркоўванне тэндэнцый беларускага літаратурнага працэсу ў Беларусі і на Беласточчыне, дыялог прадстаўнікоў Саюза беларускіх пісьменнікаў з пісьменнікамі Падляшша, якія на працягу пару дзясяткаў гадоў таксама пасталелі, і з вялікай прыемнасцю папаўняюць сваю творчую групоўку наймалодшым пакаленнем творцаў на роднай ніве.

Сёлета ў семінары ўзялі ўдзел сябры Саюза беларускіх пісьменнікаў — на чале са старшынёй Барысам Пятровічам Сачанкам — Уладзімер Арлоў, Валянціна Аксак, Алесь Пашкевіч і Усевалад Сцебурака. Між іншым, краналіся тэмы беларуска-польскага супрацоўніцтва і кнігавыдавецтва, абмяркоўваліся найбольш праблемныя пытанні ў галіне літаратуры. Павал Грэсь выступіў з бягучай справаздачай ад фонду „Віла Сакратас”, дэманстраваліся дакументальнае кіно Міколы Ваўранюка пра фонд, адслухалі радыёрэпартаж Юркі Ляшчынскага пра найстарэйшага беларускага аўтара з беластоцкага старонка Віктара Шведа. Творчасць беларускіх літаратараў ды беларуская літаратура ў Польшчы на працягу не толькі апошніх гадоў выклікалі цікавасць і жывое абмеркаванне, асабліва атрыманне Святланай Алексіевіч Нобелеўскай прэміі, а таксама гісторыя пакалення „Тутэйшых” у дакладах Алеся Аркуша і Алы Петрушкевіч. А Гражына Харытанюк-Міхей займальна распавяла пра пераклады беларускай літаратуры ў Польшчы. Пасля 15-гадовай паўзы ў семінары прыняў удзел пісьменнік і гісторык Уладзімер Арлоў:

— У 2000 годзе, калі ў Беластоку выйшла мая кніжка „Рэквіем для бензапілы”, я быў у кампаніі са Славамірам Адамовічам, Юрыем Гуменюком і Анатолем Брусевічам. Юры ўжо няма з намі, ён пераўтварыўся ў майго героя — героя кнігі „Імёны Свабоды”.

На сустрэчы прагучалі выступы Уладзімера Арлова, Алеся Пашкевіча, Міхася Андрасюка, Міры Лукшы, Кацярыны Сянкевіч, Усевалада Сцебуракі, творы Валянціны Аксак з новай кнігі „Дзікая сліва” (выйшла сёлета ў Бібліятэчцы „Дзеяслоў”). Новыя лірычныя вершы Андрэя Сцепанюка з Бельска-Падляшскага будуць надрукаваны ў менскім часопісе „Дзеяслоў”, а магчыма выйдуць асобнай кнігай пры падтрымцы Саюза беларускіх пісьменнікаў. Паэт дзякуе старшыні Саюза Барысу Пятровічу:

— Барыс Пятровіч — гэта чалавек, які дапамагае мне заіснаваць у беларускай прасторы. Я ўжо два разы друкаваўся ў „Дзеяслове”. Вельмі цешуся, што з'явіўся шанц увайсці ў літаратурную прастору Беларусі.

Гісторык літаратуры, крытык і пісьменнік Янка Трацяк прадставіў, прыцягальны і адкрыўчы раман-хроніку «Саветы», кніжку на 435 старонак пра падзеі 1939 года:

— Пра гэтыя падзеі ў нас у Беларусі гэта тэма доўгі час была забаронена, і зараз яна таксама не вітаецца. Чаму? Таму, што вядомая сітуацыя. На сённяшні дзень у беларускай літаратуры па сутнасці няма такога твора пра гэтыя падзеі.

Адной з найважнейшых тэм сёлетняга «Бязмежжа» была гістарычная Нобелеўская прэмія для Святланы Алексіевіч. У складзе дэлегацыі якая спадарожнічала з лаўрэаткай у Стакгольм, быў старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў Барыс Пятровіч Сачанка:

— Тое, што пра Беларусь загаварылі ў свеце, што мы маем свайго Нобеля, а гэтая падзея ёсць не толькі сёлетняга года — гэтую падзею мы яшчэ будзем асэнсоўваць. На сёння ў Беларусі яшчэ не разумеюць, што адбылося — я маю найперш на ўвазе беларускія ўлады, якія не ацанілі гэтай падзеі належным чынам, якія не прынялі Алексіевіч так, як павінны прыняць Нобелеўскага лаўрэата ў краіне, якія фактычна прамаўчалі гэтае прысуджэнне. Вельмі шырокая дыскусія разгарнулася пра тое, якія мы маем праблемы сёння. Праблем нямала, існуюць яны як тут, так і на Беларусі, хоць бы таму, што мы падзелены атрымаліся, і беларускія літаратары тут, і на Беласточчыне ў пэўным сэнсе, і ў Беларусі таксама. У нас існуюць два саюзы, адзін падтрымліваецца дзяржавай, другі не. І вось як выжываць у такіх умовах, калі ў Беларусі ўсё менш робіцца беларускіх школ, калі няма беларускіх вышэйшых навучальных устаноў, калі колькасць чытачоў непазбежна змяншаецца, і адпаведна змяншаецца і колькасць патэнцыйных аўтараў у перспектыве. Таму размова атрымліваецца вельмі шчырая і шырокая. Вядома, ёсць таксама размова пра тое, што мы маем, што мы паспелі зрабіць, якія ёсць даробкі ў сёлетнім годзе. Што мы робім як СБП, каб прыцягнуць і адукаваць маладых аўтараў.

Алесь Аркуш:

— Для мяне ёсць загадка, якім чынам у гэтай абмаскаленай Беларусі нечакана паўстаў мэйнстрым беларускай, беларускамоўнай літаратуры.

Уладзімер Арлоў.

— Нашы дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі, якія маюць ледзь не манаполію, калі казаць пра аўдыторыю, яны ніколі не згадваюць найбольш нашых істотных, таленавітых творцаў, літаратараў. Два дзесяцігоддзі нічога не казалі пра Быкава, хіба што зрэдку негатыўна нейкі гучаў, якія нічога не казалі пра Някляева вельмі доўга, так цяпер поўнае маўчанне пра Саюз беларускіх пісьменнікаў, да якога я належу. Па сутнасці замоўчваецца Нобелеўская прэмія Святланы Алексіевіч на дзяржаўным узроўні. Школьныя праграмы, чорныя спісы „ненадзейных”, „нядобранадзейных” пісьменнікаў таксама робяць сваю справу. Для мяне і многіх маіх калег амаль немагчыма выступіць у школе, ва ўніверсітэцкай аўдыторыі, у бібліятэцы. Такія сустрэчы адбываюцца, але тады іх арганізатары рызыкуюць страціць працу.

Усевалад Сцебурака:

— Яшчэ адной цікавай тэмай, якую прапанавалі арганізатары, стала тэма паэтаў, літаратараў „пяцідзесятнікаў”, з якіх многія з іх зніклі з літаратурнай мапы проста незаўважна. Спадарыня Ала Петрушкевіч і Алесь Аркуш выступалі на гэтую тэму і назвалі прозвішчы. Гэта яшчэ адна цікавая тэма не да канца раскрытая і даследаваная. Мне падаецца, што тут людзі робяць часам значна больш чым мы робім там. Тое што адбываецца тут, гэтая канцэнтрацыя беларускасці з гэтага боку мяжы, можа перавышаць тую з нашага боку мяжы. Мне за гэта сорамна, бо часам не мы „даем”, а прыязджаем сюды „набрацца”, „узяць” — беларускасці, настрою, харошых думак. Сорамна толькі за тое, што не мы з'яўляемся арганізатарамі, прыязджаем сюды ў госці, не могучы сарганізаваць адпаведніка таго, што робіцца тут.

Напрыканцы другога дня семінара з творамі выступіў Віктар Сямашка і прагучалі песні ў выкананні барда Аляксандра Памідорава, які выступіў таксама ў Беластоку перад аўтарамі-пачаткоўцамі. XVIII літаратурны семінар „Бязмежжа” завяршыў падвядзенне XVIII выпуску Літаратурнага конкурсу беларускай паэзіі і прозы „Дэбют”. Лаўрэаты і фіналісты былі адзначаны прызамі, у тым ліку новай дзіцячай кнігай „Пэтсан і Фіндус святкуюць Каляды” з серыі „Каляровы ровар” Бібліятэкі Саюза беларускіх пісьменнікаў.

Семінар „Бязмежжа” падтрымалі Міністр адміністрацыі і лічбавізацыі РП, Радыё Рацыя, войт гміны Нараўка.

Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ





# Навагодні роздум пра вялікіх і маленькіх людзей

У вялікіх людзей вялікія праблемы — вельмі вялікія, як гара Джамалунгма, а нават большыя. Такія яны вялікія, як і яны самі. Да носа гэтых людзей нават дуляй не дацягнуцца. Ім не да драбязы, яны вырашаюць лёсы планеты. Гэта як мінімум. Яны мяняюць яе геапалітычнае аблічча, а таксама не даюць іншым вялікім людзям яго мяняць. Яны ствараюць кааліцыі і палітычныя ды вайсковыя блокі супраць іншых кааліцый ды палітычных і вайсковых блокаў, якія другія вялікія людзі ствараюць супраць іхных кааліцый ды палітычных і вайсковых блокаў. Вялікія людзі пачынаюць і завяршаюць войны. Яны добра арыентуюцца ў тым, калі іх пачаць а калі скончыць, і робяць гэта заўсёды своечасова. Яны самі так сцвярджаюць. Яны добра ведаюць, чым адрозніваюцца эканамічныя войны ад гібрыдных, а гібрыдныя ад негібрыдных, а негібрыдныя ад эканамічных... Яны дасканала разбіраюцца ва ўсім і нават сустракаюцца між сабой, каб падкрэсліць гэта адзін перад другім.

У маленькіх людзей таксама бываюць праблемы. Як бы для вялікіх людзей гэта не гучала смешна, але бываюць. Толькі ў адрозненні ад вялікіх, у якіх праблемы толькі вялікія, у маленькіх людзей ёсць праблемы і маленькія, і вялікія. Маленькіх людзей таксама тычацца вялікія пытанні геапалітычнага раздзелу свету, бо гэта па іх хатах і лёсах адбываецца той раздзел. Маленькіх людзей таксама клапоцяць усе віды гібрыдных і негібрыдных войнаў, бо гэта іх жыццямі робяцца тыя войны. Маленькіх людзей таксама цікавіць пра што там вялікія людзі гамоняць між сабой, бо гэта дае ім магчымасць разабрацца каго з вялікіх людзей належыць лічыць сваім абаронцам, а заадно і кіраўніком. А яшчэ маленькіх людзей турбуюць маленькія, зусім нязначныя і нявартыя ўвагі вялікіх людзей праблемы, у якіх маленькія людзі проста топяцца так глыбока, што вялікіх праблем часамі і не заўважаюць ледзьве не да апошняга моманту. Як кажуць у народзе, пакуль пярун не грымне...

У вялікіх жа людзей маленькіх праблем няма. Не тое што яны ўжо зусім іх не наведваюць. Бывае, звальваецца на галаву як пярун з яснага неба і крыху перашкаджаюць вырашаць вялікія справы. Але толькі крыху. Проста іх маленькія праблемы мусяць вырашаць не яны самі, а тыя маленькія людзі, якія падпарадкоўваюцца вялікім. Адбываецца ўсё згодна з адной французскай прымаўкай, якая сцвярджае, што ў каго ёсць сабака, той не мусіць брахаць сам. Вось таму вялікія людзі маленькіх праблем не заўважаюць, бо пакуль у іх дойдуць да тых праблем рукі, маленькія людзі іх ужо самі вырашылі.

Лагічна было б меркаваць, што законы гарманічнага існавання грамадства патрабуюць пэўнай узаемнасці. Раз маленькія людзі вырашаюць маленькія пытанні вялікіх людзей, то і вялікія людзі мусяць вырашаць вялікія праблемы маленькіх людзей. Прычым без уцягвання маленькіх людзей у свае вялікія гульні. А маленькія людзі, у гэтым выпадку, не павінны нават заўважаць вялікіх праблем, як вялікія людзі не заўважаюць праблем маленькіх.

Хай бы вялікія людзі дзялілі свет без удзелу маленькіх і ваявалі б паміж сабой без іх. Вось сабралася дзесяць адных вялікіх людзей, узялі зброю, і пачалі ваяваць супраць дзесяці іншых вялікіх. Наваяваліся б уволю і гібрыдна, і эканамічна, і паведамілі б маленькім людзям свае вялікія вынікі.

Але ж не. Вялікія людзі вырашаюць свае супярэчнасці маленькімі людзьмі. А тыя супярэчнасці як не вырашаліся, так і не вырашаюцца.

Штосьці не так у гэтай схеме. Штосьці трэба мяняць. Відаць, не будзе аніякага толку, пакуль маленькія людзі самі не пачнуць вырашаць вялікіх пытанняў.

Зразумела, што ідэя не новая. Ясна ўсім, што на тое ўжо нават прыдуманыя дзейсныя тэхналогіі. І галоўная, і найбольш эфектыўная з іх гэта моцная грамадская супольнасць. Толькі чаму ў нас яна не дзейнічае?

Ясна чаму. Вялікія людзі перашкаджаюць. І іх зразумець можна. Маленькія людзі без вялікіх выжыць то могуць, а вось вялікія без маленькіх не.

Дык можа іх проста ігнараваць, тых вялікіх. Навошта яны нам. А пачаць хаця б з таго, што проста не слухаць іх навагодніх віншаванняў людзям маленькім.

Ну няўжо мы самі сябе павіншаваць не зможам.

**Віктар САЗОНАЎ**

# Пра каўбасу інакш



Пра святочную каўбасу напісаў я раней. Сёння скрабану некалькі слоў пра іншую — метафарычную. Яе выпраменьваннем з'яўляецца выбарчая каўбаса, што з'яўляецца сінонімам пустых абяцанняў, якія палітыкамі так лёгка даюцца выбаршчыкам. Я не рэкамендаваў бы яе нікому. Гэты прадукт многаразовага выкарыстання, з рыгальным характарам. Некаторыя называюць яе больш маляўніча «cofka». Але што каму ідзе ў смак... Беларусы ў гэтым прыкладзе асацыююць каўбасу, такую сапраўдную каўбасу, з як найбольш несапраўднымі выбарамі ў Беларусі. Дарэчы, гэта вельмі цікавая ў краіне прапанова каўбасы і попыту на ўладу ў час прэзідэнцкіх выбараў. Па дзіўным збегу абставінаў, пасля выбараў наступае рэзкае скарачэнне ў пастаўках каўбасы і ў той жа час хуткі рост попыту на ўладу заўсёды пераможнага кандыдата, Аляксандра Лукашэнкі. Ну, але ж кожная краіна мае свае звычаі. У Польшчы, у пачатку 90-х гадоў мінулага стагоддзя, можна было купіць у крамах мясападобны выраб пад дасціпнай назвай «выбарчая каўбаса» — «казённы пірог». У маркетынгавым плане: гіт! Але хто ведаў тады, што такое маркетынг? Або рэкламная стратэгія? Але прыйшлося кожнаму змерыцца з новай рэальнасцю. І гэта быў, памятаеце, неспакойны час фарміравання польскага рэчышча палітычнага бачання. Твар маладой дэмакратыі быў поўны прышчаватых вывяржэнняў ідэалагічна-нацыяналістычнага характару, не вольных ад гістарычных крыўдаў і нацыянальных комплексаў. Амаль кожны дзень фармаваліся новыя партыі і партыйкі, якія амаль адразу размываліся ў палітычны нябыт або аб'ядноўваліся з асноўнай плынню перамен, адзначаных ідэалогіяй эканамічнага неалібералізму, у рэшце рэшт, старанна схаванага ў так званых Бальцаровічаўскіх рэформах. Польскаму капіталізму ў каротkіх штоніках не ў галаве было тады мудрае папярэджанне папярэдніх пакаленняў, выяўленае словамі паэта: «Wiek męski, wiek klęski». Сёння толькі ведаем яе смак. Але тады, хто думаў пра смак паразы? Картачкі на харчовыя тавары ўжо былі знятыя, але звычайныя вяндліны купляліся кілаграмамі або ўвогуле. І раптам стала капрызнічанне па заходняй модзе. Да сёння я пешчу ва ўспамінах пачуццё культурнага трыумфу, калі я заказаў (загадаў!) прадаўшчыцы, каб урэзала для мяне пару лустачак гэтай выбарчай каўбасы. І вокам не міргнуўшы, яна гэта зрабіла. Толькі што пасля аказалася, што яна ў смаку горшая чым тагачасная «звычайная», са змесцівам ухваленым ЦК ПАРП. У маім сямейным доме мы называлі яе «сцярвятнай» — асацыюючы яе з ахвотай сцярвятнікаў да падлы. Карацей кажучы, я дазволіў сябе ашукаць! Падмануў мяне рэкламны каптурок — заходні па форме і польскі па змесце. Я, як і большасць грамадства, цалкам быў негатывы да назойлівасці маркетынгавага досціпу і яго ілюзорных дэкларацый. Я выплюнуў ледзь пажаваны кавалачак выбарчай каўбасы ў сметніцу. Але я не шкадую гэтага вопыту. Каўбаса ў сваёй дасціпнай навінцы ў той час, калі Польшча явілася як вялікая дыскусійная панэль, у якой прымалі ўдзел пароўну палякі з палякамі, беларусы з літоўцамі ці ўкраінцамі, або накрыж усе з усімі, а спрэчкі былі не з-за пятрушкі, але пра будучыню агульнай дзяржавы, і ці адкрытага грамадства, ці нацыянальнай дзяржавы — гэта было нешта! На жаль, наўрад ці хтосьці быў маральна гатовым да відавочнага ў заходніх краінах разумення дысанансу паміж формай зместу, ці змесцівам формы. У любым выпадку, рабіўся на маіх вачах культурны прарыў. Памятаю, якім вялікім маральным шокам для большасці была першая тэлевізійная рэклама гігіенічных пракладак замежнай касметычнай кампаніі. Ва ўсякім выпадку, у прамым эфіры перанесеная з заходняга тэлебачання і адрасаваная да кліентаў асвойтаных з натуралізмам чалавечай цялеснасці і яе інтымных сфер. У Польшчы, у рэшце рэшт, «гэтыя рэчы» па-ранейшаму былі ахоплены агульнай агаворкай маральнага табу. Наўрад ці хто заўважыў, што таранам, які моцна яго надкрышыў, была «сянкевічаўская» рэклама пральнага парашка. Як вядома, мыццём портак у Польшчы займаліся выключна жанчыны. Патрыярхальнасць была недатыкальнай нормай. Фемінізм існаваў у зачаткавай форме ў выглядзе Лігі польскіх жанчын. І тут раптам ляцяць з тэлевізара славутае пытанне, якое спалучала ў сабе досціп і гульню слоў, і вочка, і ў той жа час маральную правакацыю: «Ojciec, prać?». Як гэта так?!. Мужчыны, апранутыя як хвацкія вояры не гавораць паміж сабой аб слаўных бітвах, а пра парашок, а няяўна пра мыццё ўласных портак?

**Міраслаў ГРЫКА**



Вачыма еўрапейца

# Праграма дзеля меншасцей

Падчас апошняй у мінулым годзе, снежаньскай, сустрэчы Сумеснай камісіі ўрада і нацыянальных і этнічных меншасцей зноў ставілася пытанне аб «Праграме дзеля нацыянальных і этнічных меншасцей і рэгіянальнай мовы», падрыхтаванай яшчэ ў верасні 2012 года. У адпаведнасці з тагачаснымі здагадкамі павінна яна быць рэалізаванай у 2014-2020 гадах. У першую чаргу па фінансавых меркаваннях (недахоп грошай на яе рэалізацыю), засталася яна ў стадыі планавання. Цяперашні прадстаўнік урадавага боку, намеснік міністра ўнутраных спраў і адміністрацыі Себастыян Хвалэк пагадзіўся вярнуцца да перамоў на яе тэму. Хутчэй за ўсё, гэта будзе адбывацца падчас пасяджэння Сумеснай камісіі 17 студзеня.

У адпаведнасці з праектам мэтай праграмы з'яўляюцца: паляпшэнне дзейнасці органаў мясцовага самакіравання ў намаганнях па падтрымцы культурнай самабытнасці нацыянальных і этнічных меншасцей, захаванне і развіццё рэгіянальнай мовы, павелічэнне прысутнасці задач, накіраваных на захаванне культурнай самабытнасці нацыянальных і этнічных меншасцей і прасоўванне моў меншасцей і рэгіянальнай дыялектаў сярод уласных задач органаў мясцовага самакіравання, паляпшэнне іміджу нацыянальных і этнічных меншасцей і рэгіянальнай мовы ў мясцовых і рэгіянальных супольнасцей і павелічэнне ведаў мясцовых і рэгіянальных грамадстваў на тэму гісторыі, культуры і правоў нацыянальных і этнічных меншасцей. Як кажа праект, мелі б перавагу заданні для дзяцей і моладзі, а таксама дзеля адукацыі, накіраванай на павышэнне ўзроўню ведаў мясцовых і рэгіянальных супольнасцей на тэму нацыянальных і этнічных меншасцей і рэгіянальных дыялектаў. У праекце пералічаны прыклады задач, якія могуць рэалізавацца ў рамках Праграмы: вядзенне самаўрадавых калектываў нацыянальных і этнічных меншасцей, вядзенне ўстаноў культуры нацыянальных і этнічных меншасцей і рэгіянальных дыялектаў, ініцыяванне самаўрадамі сустрэч і дыскусій, прысвечаных гісторыі, культуры і правам меншасцей, прызначэнне ўпаўнаважаных па справах нацыянальных і этнічных меншасцей на ўзроўні мясцовых і рэгіянальных органаў улады, вядзенне кампаніі па распаўсюджванні ведаў пра ўклад меншасцей у развіццё рэгіёна.

Каардынатарам праграмы будзе міністр, адказны за рэлігійныя канфесіі і нацыянальныя і этнічныя меншасці — у цяперашняй структуры ўрада будзе ім міністр унутраных спраў і адміністрацыі. Такім чынам, гэта павінна быць урадавая праграма, і абавязкі, якія вынікаюць з яе, будуць ажыццяўляць органы мясцовага самакіравання. Як ужо я згадваў у «Ніве» ў справаздачы са снежаньскай сустрэчы Сумеснай камісіі, яе рэалізацыя паглыне больш за 20 млн. злотых (10 млн. злотых з рэзерву дзяржаўнага бюджэту і 10 млн. злотых з уласных рэсурсаў органаў мясцовага самакіравання). Уласны ўклад непасрэдна зацікаўленых мае складаць мінімум 50% (пры вядзенні культурнай установы ўласны ўклад мясцовых органаў улады можа быць ніжэйшы). Грошы з цэнтральнага бюджэту будуць паступаць з адмысловага рэзерву, і папаўняліся б за кошт уласных сродкаў мясцовых самаўрадаў. Заяўкі да ваяводаў падавалі б мясцовыя самаўрады, а размеркаванне сродкаў на ўсе ваяводствы выконваў бы міністр, адказны за рэлігійныя канфесіі ды нацыянальныя і этнічныя меншасці, атрымаўшы меркаванне Сумеснай камісіі ўрада ды нацыянальных і этнічных меншасцей. Аб падзеле сродкаў паміж заяўнікаў — мясцовыя самаўрады — мела б вырашаць камісія, створаная адпаведным па рэгіёне ваяводам, у склад якой увойдуць прадстаўнікі арганізацый нацыянальных і этнічных меншасцей ды суполак, якія выкарыстоўваюць рэгіянальную мову, адзінак мясцовага самакіравання, міністра па справах рэлігійных веравызнанняў і нацыянальных ды этнічных меншасцях, і адпаведнага ваяводы. Рэалізацыя Праграмы ўпісвалася б у палажэнні Закона аб нацыянальных ды этнічных меншасцях і рэгіянальнай мове, рамачнай канвенцыі Савета Еўропы аб абароне нацыянальных меншасцей і еўрапейскай хартыі рэгіянальных або меншасных моў. Аднак, стаіць галоўнае пытанне, ці пры спрыяльнай палітычнай волі рэалізацыя гэтай праграмы, несумненна, патрэбнай, таксама ўпішацца ў бюджэтны праект найбліжэйшых гадоў, а таксама ці з выдаткамі, звязанымі з яе рэалізацыяй, справяцца самаўрады.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

# У Гайнаўцы адзначылі бежанства 1915 года





■ Рэдактар Віталь Луба падчас прэзентацыі кнігі «Бежанства 1915 года». Пытанні ставіць яму Тамаш Суліма (справа)

**Гайнаўскае аддзяленне Праваслаўнага брацтва святых Кірылы і Мяфодзія 20 снежня ўрачыста адзначыла сотую гадавіну бежанства 1915 года. За ўпакаенне душ бежанцаў маліліся святары і вернікі падчас літургіі ў Свята-Троіцкім саборы ў Гайнаўцы. Пасля абеду гайнавяне спакаліся ў Гайнаўскім доме культуры, каб пагля-дзець фільм Юрыя Каліны «Бежанства» і даведацца пра кніжку «Бежанства 1915 года», якую выдала Праграмная рада тыднёвіка «Ніва». Можна было таксама паглядзець спектакль «Бежанцы», фотавыставу «Незвычайная гісторыя звычайных людзей» і выставу манатыпіі «Бежанства. На ростані».**

Мерапрыемства, якое з Праваслаўным брацтвам суарганізавалі Белавежскі нацыянальны парк, Музей і асяродак беларускай культуры ў Гайнаўцы і Гайнаўскі дом культуры, удастоілі староста Гайнаўскага павета Міраслаў Раманюк, бургамістр Гайнаўкі Ежы Сірак, старшыня гайнаўскага брацтва Кацярына Чурак, духоўны апякун гайнаўскага брацтва іерэй Марк Юрчук і іншыя святары Свята-Троіцкага прыхода ў Гайнаўцы, пры якім і дзейнічае брацтва, дырэктар ГДК Расціслаў Кунцэвіч і іншыя прадстаўнікі суарганізатараў сустрэчы. Прымеркаваную бежанству ўрачыстасць вяла настаўніца гісторыі з Гайнаўкі Нэля Шчука, якая распавяла пра гістарычныя ўмовы да і падчас Першай сусветнай вайны, якія папярэдзілі бежанства. Расказала яна пра лёс сваіх продкаў, якія таксама трапілі ў глыб Расіі, ад якіх застаўся самавар (падчас спаткання стаяў на стале). Побач самавара ляжалі тоўстыя кніжкі «Бежанства 1915 года».

Прэзентаваны ў пачатку сустрэчы фільм Юрыя Каліны «Бежанства» быў зняты ў 1999 годзе і яго паказ у канцы 2015 года даў магчымасць паслухаць расказы старэнькіх людзей, народжаных каля 1910 года, аб трагічных і станоўчых здарэннях падчас бежанства і вяртання назад. Адным у Расіі пашанцавала, іншым жылося дрэнна. Голад і пагроза смерці паявіліся пасля кастрычніцкага перавароту. Складаным было вяртанне дамоў і жыццё ў землянках і хатах суседзяў, бо свае дамы часта былі спаленымі. Трэба было наймацца на працу ў людзей, якія не выязджалі ў бежанства, а нават прыходзілася прасіць у добрых людзей міласціну. Нэля Шчука напомніла, што бежанцы прывезлі з Расіі дамоў некаторыя рускія традыцыі, хаця б элементы дэкору драўляных хат, ці песні.

Расказы бежанцаў пачалі запісваць журналістамі «Нівы» з 1958 года. У дзевяностых гадах журналісты «Нівы», яе карэспандэнты і чытачы правялі акцыю запісу апаведаў апошніх бежанцаў. На аснове сабраных і раней апублікаваных на старонках «Нівы» матэрыялаў у 2000 годзе была выдадзена кніжка «Бежанства 1915 года». У лістападзе гэтага года выйшла яе другое, папоўненае выданне. Першая прамоцыя кніжкі адбылася ў Беластоку, чарговая праходзіла падчас брацкага мерапрыемства ў ГДК.

— У дзевяностых гадах тадышні галоўны рэдактар «Нівы» Яўген Міранович запрапанаваў журналістам сабраць успаміны бежанцаў і мы гэта зрабілі. У першым выданні «Бежанства 1915 года» было змешчана 155, а ў другім — 168 успамінаў бежанцаў, — пачаў расказваць рэдактар абодвух выданняў кніжкі «Бежанства 1915 года» Віталь Луба.

Размову з Віталем Лубам на беларускай літаратурнай мове вёў у доме культуры Тамаш Суліма з Музея малой айчыны ў Студзіводах, які таксама рыхтуе да выдання кніжку пра бежанства. Тамаш Суліма расказаў пра лёсы жыхароў Крывятыч і Тапчыкалаў, у якіх жылі яго продкі. Падчас спаткання выказваліся людзі з публікі.

— Яшчэ ў шасцідзясятых гадах запісы пра бежанства рабілі журналісты «Нівы», між іншым, Віктар Рудчык, Уладзімір Паўлючук, Міхась Хмялеўскі. Тады героямі тэкстаў былі ўдзельнікі кастрычніцкай рэвалюцыі, у вірах якой апынуліся яны ў выніку бежанства. Спачатку расійская адміністрацыя арганізавала перасяленне людзей з прыфрантавой зоны з намерам пратрымаць бежанцаў праз некалькі месяцаў ва Усходняй Беларусі і пасля перамогі на фронце вярнуць іх дамоў. Калі вайна працягвалася, каб пазбегнуць гуманітарнай катастрофы і грамадскіх хваляванняў, бежанцаў сталі перамяшчаць у глыб Расіі. Гісторыкі з Расіі, якія прыязджалі ў Беласток на навуковую канферэнцыю гаварылі, што ў архівах Расіі знаходзіцца многа матэрыялаў наконт бежанства, якія дагэтуль не даследаваліся, — сказаў Віталь Луба.

Анна Сідарук з Гайнаўкі ўспомніла пабыўку сваёй сям'і ў Расіі, дзе нарадзіўся яе бацька Інакенцій, ахрышчаны ў гонар тамашняга святога Інакенція Іркуцкага. Вера Масайла, якая займаецца з дзеткамі і моладдзю ў ГДК, распавяла пра сваю ангажаванасць ва ўшанаванне 100-й гадавіны бежанства.

— Ужо год я жыву бежанствам, збіраю і запісваю аповеды пра бежанскія падзеі, якія тычацца маіх продкаў. Напісала я сцэнарый і падрыхтавала са сваімі вучнямі з калектыву «Званкі» пастаноўку пра бежанства, якую паказвалі мы ў розных месцах. Напісала я таксама верш «Мае продкі — бежанцы», у якім спасылаюся на продкаў са Збуча, — гаварыла падчас спаткання былая настаўніца Вера Масайла і зачытала сабраным свой верш, які на Агульнапольскім конкурсе беларускай паэзіі і прозы «Дэбют» быў узнагароджаны трэцім месцам.

Мужчына з публікі спытаў ці высновы з урока стогадовай даўнасці, якім было бежанства, можна выкарыстаць цяпер, калі ў Еўропу масава прыбываюць бежанцы з ахопленай вайной Сірыі і навакольных краін. Рэдактар Віталь Луба заявіў, што бежанства 1915 года вучыць нас з эмпатыяй ставіцца да ўсіх бежанцаў, якія патрабуюць дапамогі, за што атрымаў апладысменты ад публікі.

На доўгім калідоры, побач канцэртнай залы, можна было паглядзець фотавыставу «Незвычайная гісторыя звычайных людзей», якую падрыхтавалі Белавежскі нацыянальны парк і Надлясніцтвы Белавежа, Броўск і Гайнаўка, распаложаныя на тэрыторыі Белавежскай пушчы, у супрацы з парталам biezenstwo.pl. Была яна адкрыта ў БНП і прэзентавалася ў іншых месцах. Яе куратар і суаўтар Эва Мароз-Кэчынская з БНП выступіла перад сабранымі ў ГДК, коратка расказала пра экспазіцыю і зачытала ліст ад суаўтаркі згаданай экспазіцыі Анеты Прымакі-Онішк, якая не магла даехаць на гайнаўскае мерапрыемства. На фотавыставе сабраны здымкі, якія дакументуюць трагічныя здарэнні 1915 года і пазнейшага перыяду. Здымкі суправаджае змястоўная інфармацыя аб бежанстве. З другога боку калідора размясцілася выстава манатыпіі гайнаўскага мастака Данеля Грамацкага, азагалоўленая «Бежанства. На ростані» і прымеркаваная да гадавіны бежанства. Яе прэм'ерная прэзентацыя адбылася ў Музеі ў Бельску-Падляшскім. Аўтар прац заявіў, што інспірацыяй да стварэння графікі пра бежанства быў лёс сям'і ягонай прабабулі, якая нарадзілася перад самым бежанствам.

На заканчэнне спаткання спектакль «Бежанцы» запрэзентавала тэатральная група з Музея і асяродка беларускай культуры ў Гайнаўцы, якой апекуном з'яўляецца вядомая на Падляшшы актрыса і рэжысёр Іаанна Стэльмашук-Троц. Спектакль «Бежанцы» быў створаны на падставе тэкстаў з кніжкі «Бежанцы» Бажэны Дзем'янюк, публікацый на сайце biezenstwo.pl і фрагментаў тэкстаў з кніжкі «Бежанства 1915 года», выдадзенай у 2000 годзе тыднёвікам «Ніва». Пераклад тэкстаў на падляшскую мову беларусаў зрабіў Ян Максімюк, а прэм'ера спектакля адбылася напрыканцы 2014 года ў Гайнаўскім белмузеі. У Гайнаўскім доме культуры 20 снежня па-акцёрску запрэзентаваліся цяперашняя і былая гайнаўскія белліцэісткі Магдалена Гаўрылюк і Марыя Краўчык і бельскія белліцэісты Якуб Мацяюк і Міхал Скарбілові. Сваёй ігрой захапілі яны сабраных, якія адчулі атмасферу бежанства стогадовай даўнасці. Рэжысёр спектакля «Бежанцы» Іаанна Стэльмашук-Троц паінфармавала, што акцёры з Гайнаўскага і Бельскага белліцэяў выступілі са спектаклем ажно дванаццаць раз, што для іх таксама з'яўляецца юбілеем.

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

## *Мае продкі – бежанцы*

*Яны горача развіталіся*
*з прыдарожнымі крыжамі*
*Старога Корніна і Збуча*
*Бельскага павета*
*Гродзенскай губерні*
*Ручнікі з крыжоў трывожна*
*шапталі:*
*«Што з Вамі будзе?!.»*
*…*
*Дзежкі з хлебавым квасам*
*сумна скардзіліся*
*ў вяроўцы вазоў*
*з палатнянымі будамі…*
*Побач жалязняка дзяўчынка*
*сцерагла ў запале*
*як каштоўны скарб*
*— лялькі з ануч…*
*Прыстойны Пятро*
*ракаводзіў статкам крыклівых*
*гусей…*
*Зацікаўленае дзіця*
*страціла з вачэй*
*маці…*
*Стомленыя валы і коні*
*адчувалі*
*неміласэрную смагу…*
*…*
*У таўпе з клункамі згубленыя*
*і шчасліва знойдзеныя:*
*васьмігадовая Надзя*
*і старэча – дзед Еўдакім*
*на сівым кані*
*Усё бурліва плыло*
*ў шырокім ручаі*
*няшчасця*
*і тумане пяску і тугі.*
*…*
*Ноч Ім шукала бяспечных*
*дарог – без эфекту!*
*Шалеючы тыф збіраў*
*багатае жніво*
*Яны значылі шлях*
*магіламі найдаражэйшых людзей:*
*жонкі і маці, бацькі і дзеда,*
*маленькага сыночка*
*Стары мундзір замяніў труну,*
*могілкамі стаў*
*прыдарожны роў…*
*…*
*Не хацелі на іх глядзець*
*нават вочы*
*гісторыі*
*Аднак цвёрда верылі Яны:*
*«Усё пройдзе, праўда ніколі»*
*Іх вочы бачылі*
*горы Урала*
*і стэпы Дняпра*
*Іх уваскрашалі тубыльцы*
*ласкай белых пірагоў*
*і дабрынёй*
*…*
*Іх сэрцы верна забілі*
*надзеяй*
*Яны захапіліся велізарнасцю*
*кавуноў*
*і бязмежжам сланечнікаў…*
*Ім прыйшлося шмат навучыцца*
*у хатах з аканіцамі*
*…*
*Тыф надалей збіраў ураджай*
*Косці Міхася і Даміnікі*
*сталі ўдабраць Растоўскую*
*зямлю*
*Міхась-юніёр на фронце*
*перамяніўся ў «белага*
*жураўля»*
*…*
*Усе каму пашанцавала*
*затужылі па цёмным*
*хлебе*
*Іх мары здзейсніліся…*
*Яны вярнуліся на сваю*
*зямельку, ды*
*ў санацыйную Польшчу*

*Пакланіліся зноў прыдарожным*
*крыжам*
*Сталі есці хлеб з конскага*
*шчаўя і паловы*
*Яны як птушкі*
*адбудавалі сваё гняздо*

*Яны — звычайныя людзі*
*ды вярнуліся*
*з незвычайнай дарогі*
*Вярнуліся, каб мы*
*маглі дыхаць*
*чароўнасцю*
*Падляшскай зямлі*

*Вера МАСАЙЛА*

## ЗАПРАШАЕМ



**«Сярожа», дак. фільм, рэж. Юры Каліна, працягласць 47 хв., «Белсат», 2015. Прэм'ера 10.01.2016 г. а 16 гадзіне на тэлеканале Белсат. Адмысловая прэзентацыя пройдзе ў кінатэатры «Форум» у Беластоку 26 студзеня 2016 г. а 18 гадзіне.**

У біяграфіі героя фільма, Сяргея Нічыпарука, жыхара вёскі Буды ў Белавежскай пушчы, адлюстраваны лёс беларускай праваслаўнай меншасці, якая жыве ва ўсходняй частцы Падляшскага ваяводства. Як і вялікая частка ягоных крэўных, Сяргей паходзіць з невялікай беднай вёскі, ягоныя продкі стагоддзямі займаліся працай на раллі, маліліся ў праваслаўнай царкве, са страхам у вачах прымалі кожную змену ўлады, але ў той жа час намагаліся спадабацца новым уладам і прыстасавацца да новых варункаў. «Цішэй едзеш — далей будзеш», — вучыў бацька сына з поўнай упэўненасцю ў правільнасці гэтай максімы.

Але ці сапраўды герой фільма такі самы, як і большасць ягоных родных? Ці, можа, ён быў у авангардзе змен, якія прыходзілі ў Падляшскае ваяводства з «вялікага польскага свету»? Гэтыя пытанні задае сабе журналіст Польскага радыё «Беласток» Яраслаў Іванюк, які вырашыў стварыць дакументальную радыёпраграму пра Сяргея Нічыпарука. Здымачная група суправаджала яго падчас запісу.

Сяргей Нічыпарук і ягоная сям'я трымае агратурыстычны пансіянат у вёсцы Буды ў Белавежскай пушчы. Некалькі дамоў з пакоямі для гасцей, руская лазня, карчма паляўнічага, этнаграфічныя экспанаты, усё агароджанае традыцыйным падляшскім плотам з жывой вярбы — тынам. Найвялікшы гонар гаспадароў — адрамантаваная хата, пабудаваная ў 1887 годзе, з арыгінальным дэкорам той эпохі.

Ранейшыя этапы жыцця Сяргея не былі такімі ідылічнымі. Ён нарадзіўся ў вёсцы Залешаны, якая ў 1946 г. зведала пацыфікацыю з боку Спецыяльнага аддзела хуткага рэагавання польскага Нацыянальнага вайсковага задзіночання пад камандаваннем капітана Рамуальда Райса па мянушцы «Буры». Падчас гэтай акцыі загінула 17 вяскоўцаў, у тым вялікая частка сям'і Сяргея Нічыпарука. У маладосці ён паверыў прапагандзе «народнай улады» і зрабіўся ідэйным камуністам. Ідэалагічная змена надышла ў сярэдзіне 1970-х. Наш герой зразумеў, што камунізм гэта — «хлусня і падман», выкінуў партбілет... і пачаў вучобу ў Праваслаўнай духоўнай семінарыі ў Варшаве. У 1981 г. ён узначаліў суполку «Салідарнасці індывідуальных фермераў» у Дубічах-Царкоўных. Гэта была адзіная гміна з праваслаўным насельніцтвам, у якой паўстала суполка «Салідарнасці». Сяргей Нічыпарук зрабіўся прыватным прадпрымальнікам, больш за 30 гадоў ён будуе драўляныя дамы, корчмы, гаспадарчыя будынкі і цэрквы.

Ён дапамог пабудаваць манастырскі дом св. Кацярыны ў Залешанах, у якім ягоная дачка — праваслаўная манашка сястра Лізавета — моліцца за спачын душ жыхароў вёскі, забітых у 1946 г.




# Адвентовае Іграннe

Гэтыя гукі чуваць толькі ў адвенце. У час сухой марознай ночы нясуцца яны па ваколіцы на многія кіламетры. Ад спрадвечных часоў абвяшчаюць на Падляшшы аб надыходзе Збаўцы.

— Найлепш іграць, калі ўжо цёмна і марозная ноч, тады гук нясецца далёка, далёка ў свет, — кажа Антоні Война з Траяноўкі. Война прыйшоў да гэтай вёскі ў прымы ў 1971 годзе. — Я прыйшоў да жонкі з лігаўкай, — успамінае. — У маёй роднай вёсцы некалькі хлопцаў вельмі добра igралі на гэтым інструменце. Найлепшы быў, помню, Базылевіч Мячыслаў. У новай ваколіцы добра іграў Мар'ян Камінскі. Ён жыў недзе пяць кіламетраў ад мяне. Здаралася, што і гадзіну між сабою мы ігралі, пераклікаліся. Раз ён, раз я.

Цяпер спадар Антоні найчасцей адвентовы дыялог вядзе з Раманам Скавырай, сваім вучнем, які жыве непадалёк.

— Гэта такі вучань, які перарос настаўніка, — смяецца спадар Антоні.

— Уменне іграць чалавек мае ў крыві, гэта такая прывычка, — кажа Раман Скавыра. — Я навучыўся іграць яшчэ ў пачатковай школе. У 1981 годзе, у час ваеннага становішча, паспрабаваў першы раз. У 1984 годзе прызвалі мяне ў войска. Там, калі прыйшоў адвент, штосьці не давала мне спакою. Лігаўкі, вядома, я не меў, але знайшоў кавалак тоўстай гумовай трубы. Помню, дзьмухнуў так моцна, што мае саслужыўцы аж перапалохаліся, думаючы, што гэта нейкі вайсковы сігнал. Пазней мая ігра так усім спадабалася, што ў адвенце перад брамай я іграў два разы ў дзень: зраніцы і ўвечар. А калі я выйшаў з войска, тады ўжо ў кожны адвент іграў на лігаўцы. Люблю іграць позняй парою. Калі сын вяртаецца з работы з другой змены, тады я выходжу перад хату і пачынаю іграць. Навокал цішыня, але людзі яшчэ не спяць, усе чуюць.

Каб іграць на лігаўцы апрача таленту трэба мець здароўе, моцныя лёгкія, якія здольныя да доўгага і моцнага выдыху. У іншым выпадку замест чыстага гуку атрымаецца глухое бэканне, пазбаўленае доўгага гучання, якое павінна кончыць кожную страфу лігаўкавай мелодыі.

Станіслаў Крынскі, старэйшы кусташ і кіраўнік этнаграфічнага аддзялення Сельскагаспадарчага музея імя Кшыштафа Клюка ў Цеханоўцы кажа, што традыцыя адвентовай ігры мае каля 200 гадоў, хаця лігаўка з'яўляецца адным з найстарэйшых інструментаў (вядомая яна была ўжо з X стагоддзя).

— Гэта быў пастухоўскі інструмент, служыў для адпалохвання ваўкоў, — тлумачыць спадар Станіслаў. — На пачатку XIX стагоддзя ў гэтакі спосаб пачалі заклікаць на рараты. Ігралі толькі ў адвенце, зраніцы і ўвечары. Гэта павышала ранг адвентовага чакання і задумы. Сігнал лігаўкі аб'яўляў, што трэба адмовіцца ад забавы і вясёлых танцаў. Наогул таксама нагадваў аб звычаі захавання посту. Не елі тады мяса, тлушчу жывёльнага паходжання, нельга было спажываць алкаголь, а па серадах і пятніцах не елі нават малочнага.

Мала дасведчаны слухач будзе мець цяжкасці, каб адчытаць мелодыю, лягчэй у вуха трапляе рытм. Каб яе распазнаць трэба асвойтацца.

— Калісьці людзі не ведалі нут, — кажа спадар Станіслаў. — Каб пераказаць мелодыю і рытм, даўней складалі гэтак званыя крычалкі.

### Іграючая галінка

Андрэю Клейзаровічу з Цеханоўца ў ігры на лігаўцы няма роўных. Дастаткова сказаць, што з 1993 года перамагае на ўсіх конкурсах ігры на лігаўцы ў рамках Міжнароднага конкурсу ігры на пастухоўскіх інструментах, ладжаным Сельскагаспадарчым музеем у Цеханоўцы. У гэтым жа годзе спадар Клейзаровіч стаў адным з членаў журы, будучы адзіным аматарам сярод музыказнаўцаў і этнографаў.

— Гэта праява нашага прызнання для майстэрства Андрэя, — кажа Станіслаў Крынскі. — Спадзяемся, што прысутнасць такога знаўцы ўнясе новую свежасць пры ацэнцы канкурсантаў.

Клейзаровіч — па прафесіі каваль, не толькі найлепш іграе на лігаўцы, але таксама займаецца вытворчасцю такога тыпу інструментаў. Пад канец лістапада ў яго майстэрні пад Цеханоўцам завяршэння чакалі базуны — інструменты, якія нагадваюць лігаўкі, выкарыстоўваныя рыбакамі з Кашубаў.

— Не спісваю, але ў сваім жыцці я зрабіў больш за тысячу лігавак, — кажа спадар Андрэй. — Калісьці найчасцей выраблялі іх з вярбы. Гэтае дрэва было найбольш даступным. Лепшыя гукі маюць сасновыя лігаўкі, аднак сосны раслі ў панскіх лясах і мужыку цяжка было дастаць добрую галіну. Не надаецца на лігаўку бяроза, таму што яна глухая. Дуб у сваю чаргу зацяжкі, немагчыма было б трымаць такую лігаўку ў руках.

### Асновай добрай лігаўкі з'яўляецца галіна

— Галіна павінна мець адпаведную даўжыню і таўшчыню, — тлумачыць Клейзаровіч. — Мусіць яна крыху ссохнуць. Абавязкова павінна ляжаць у цяні, каб не зламалася. Пазней трэба зняць з яе кару і пагабляваць зверху. Тады можна такую галіну перарэзаць напалавіну. Пазней прыходзіць найцяжэйшае: трэба выбраць сярэдзіну ў такі спосаб, каб сценкі не былі ні за тонкія, ні надта тоўстыя. На сам канец лігаўку можна склеіць. Можна таксама яе звязаць металёвымі абручамі — тады трымаюць вельмі моцна. Упрыгожанняў, разных ці маляваных, лігаўка не патрабуе. Яна павінна быць суровая, простая, таму, што гэта пастухоўскі інструмент.

Андрэй Клейзаровіч музыкай пачаў цікавіцца яшчэ ў школе. Тады стаў членам духавога аркестра. Гэта дало яму асновы.

— Ці гэта труба, ці лігаўка няма розніцы, — кажа. — У аркестры я навучыўся тэхніцы, чытанню нот, што з'яўляецца вельмі важным. Дзякуючы гэтаму маю нотныя запісы ўсіх мелодый з ваколіцы. Бывала так, што ў вёсцы жыў дрэнны музыкант, які губіў рытм, мяшаў мелодыі. Няшчасце заключалася ў тым, што такая асоба вучыла чарговае пакаленне. Цяпер яны іграюць з памылкамі і ўпарта настойваюць на тым, што так гучыць старадаўняя мелодыя, — абураецца спадар Андрэй. Цяжка спрачацца з асобай, якая калісьці на драўлянай лігаўцы зайграла гейнал на Мар'яцкім рынку ў Кракаве. — Лепш гучала мелодыя знізу чым з вежы, — успамінае свой выступ Андрэй Клейзаровіч. — Калі я зайграў, усе галубы падарваліся, а на Рынку на працягу даўжэйшага часу панавала цішыня.

### Забароненая мелодыя

Другая сусветная вайна прычынілася да таго, што адвентовая ігра на лігаўках амаль загінула. Напачатку бальшавікі (на аснове пакта Молатава-Рыбентропа Падляшша ў 1939-1941 гг. апынулася пад савецкай акупацыяй), а пазней немцы знішчалі лігаўкі і забаранялі іграць на іх нават у адвенце, падазраючы, што выкарыстоўваліся яны для перадачы сігналаў партызанам. Таму ў час вайны традыцыя прапала, а пасля доўгі час не магла адрадзіцца. Бацька Яўгена Шыманяка з Дзежб успамінаў, што нямецкія акупанты амаль не расстралялі аднаго музыку за ігранне, але на шчасце солтыс ведаў нямецкую мову і растлумачыў, што гэта толькі адвентовая ігра.

Пасля вайны камуністычная ўлада таксама на пачатку забараняла лігаўкі, але калі перастала, астаўшыеся па вайне лігаўкі згнілі, частка музыкаў памерла і не было каму іграць.

### Адраджэнне, дзякуючы конкурсу

Вялікая змена наступіла 35 гадоў таму, калі Казімір Ушынскі, сузаснавальнік і дырэктар Сельскагаспадарчага музея ў Цеханоўцы, знайшоўшы на гарышчы старую лігаўку, задумаў наладзіць конкурс ігры на такіх інструментах.

— У першым конкурсе прыняло ўдзел чатырох музыкаў, — кажа Станіслаў Крынскі, — у тым ліку адзін працаўнік музея.

З часам колькасць ахвотных зайграць на лігаўцы павялічвалася, формула пашыралася. Цяпер конкурс ігры на лігаўцы гэта ўжо Міжнародны конкурс ігры на пастухоўскіх інструментах імя Казіміра Ушынскага. Праходзіць ён пад патранатам міністра культуры і драгічынскага біскупа. Мэтай конкурсу з'яўляецца культываванне традыцыі і перадача занікаючай умеласці ігры на пастухоўскіх інструментах ва ўсіх рэгіёнах Польшчы і Еўропы, дзе такія інструменты і людзі, якія ўмеюць на іх граць, выступаюць. Магчыма, як нішто іншае конкурс сведчыць аб цеснай сувязі народнай культуры з рэлігіяй.

**Тэкст і фота Уршулі ШУБЗДЫ**



# Атлантыда - рукой падаць

**«Хараство Палесся» (польская назва «Polesia czar») гэта загаловак выставы ўнікальных і арыгінальных фатаграфій Ісака Сербава з яго этнаграфічных экспедыцый 1911-1912 гадоў ды «Дызайн у шкле. Шкляны завод Нёман», якія можна ўбачыць у Беластоку ў Падляшскім музеі.**




Вернісаж абедзвюх выстаў адбыўся 19 снежня 2015 г. Фотаздымкі Ісака Сербава (1871-1943), паказаныя на выставе ў Беластоку, пастаянна захоўваюцца ў калекцыях Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь. У цяперашні час існуе каля 600 вядомых работ яго аўтарства, з якіх 154 знаходзяцца ў музеі, апошнія — у бібліятэцы Віленскага ўніверсітэта. Асновай выставы з'яўляюцца фатаграфіі мясцовасцей, дзе Сербаў спыняўся падчас сваіх этнаграфічных паездак летам і зімой 1911 і летам 1912 гадоў. Фотаздымкі суправаджаюцца цытатамі з апублікаванай працы этнографа «Поездки по Полесью 1911 и 1912 гг.» і «Белорусы-сакуны. Краткий этнографический очерк». Як сцвярджаюць арганізатары выставы, чытаючы іх складаецца ўражанне, як быццам мы гаворым з аўтарам, чуем яго аргументы, якія тычацца тае ці іншай з'явы, слухаем цікавыя гісторыі, якія адбыліся з ім падчас экспедыцый і непасрэдна пры здымманні. Пад адной з фатаграфій, напрыклад, можна прачытаць: «Палешукі гэта інтэлігентныя людзі, жывыя і працавітыя. На першы погляд здаецца, што паляшук нязграбны і дрымотны, асабліва калі перамяшчаецца праз балота на асле, але на самой справе ён спрытны і варухлівы. Балота корміць палешука і дае яму ўсё неабходнае для жыцця (...). Палешукі жывуць у вялікім багацці, маюць прыгожыя будынкі, шмат жывёлы і дастаткова збожжа. Сажы і бруду, з якімі, як правіла, асацыюецца вёска, на Палессі няма. Тут, наадварот, усё, можна ўбачыць парадак, чысціню і знаходлівасць». У іншай — як і на іншых — каштоўныя інфармацыі: «Сакуны — частка найбуйнейшага беларускага племя дрыгавічоў. Яны жывуць у верхнім басейне ракі Пціч і яе прытока Арэса. Сакунамі называюцца таму, што ўсе дзеясловы, якія канчаюцца на «ся» вымаўляюць «са», напрыклад: выспаўса, нагукаўса. Паводле статыстычных дадзеных, агульная колькасць сакуноў налічвае цяпер 10 тысяч 200 чалавек, з якіх 5 300 мужчын і 4 900 жанчын (...). Жывучы на цяжкадаступных выспах, забытыя ўсімі сакуны яшчэ ў значнай ступені захавалі стары лад жыцця».

## Фатаграфіі шчаслівых людзей

Выстава таксама ўключае ў сябе асобныя фатаграфіі, якія Сербаў зрабіў паміж 1913 і 1914 гг. і ў дваццатыя гады. На выставе прадстаўлены арыгінальныя брома-серабраныя адбіткі, зробленыя аўтарам са шкляных негатываў з дапамогай кантактнай фоталітаграфіі. Арыгінальныя фатаграфіі былі зроблены ручной камерай «Кодак». У гісторыі этнаграфіі і фатаграфіі Беларусі Ісак Сербаў разглядаецца як першы фатограф-дакументаліст Палесся. Яго здымкі адлюстроўваюць традыцыйную культуру рэгіёнаў гістарычнай і этнаграфічнай заходняй і ўсходняй частак Палесся, а таксама паўднёва-ўсходняй часткі цэнтральнай Беларусі. Яны прадстаўляюць шырокі спектр візуальнай інфармацыі аб выглядзе тагачасных беларусаў, з асаблівым акцэнтам на будаўніцтва сёл і традыцыйных відаў дзейнасці сялян. Куратарам выставы з'яўляецца Надзея Саўчанка — супрацоўнік Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь у Мінску. У размове з «Нівай» падчас адкрыцця сказала:

— Ісак Сербаў быў вядомым у Беларусі этнографам, фалькларыстам і антраполагам. На жаль, частка яго фатаграфічных архіваў была страчана. У свой час Сербаў быў членам Мінскага царкоўнага гістарычна-археалагічнага камітэта, па даручэнні якога правёў сваю першую паездку па краіне. Быў закаханы ў Палессе. Сам ён родам з вёскі Кульшычы Магілёўскай губерні, з сям'і малазямельнага селяніна. Быў таленавіты. Скончыў дзве навучальныя ўстановы, што ў той час не было простым, асабліва для чалавека родам з простай сям'і. Палессе з'яўляецца крайнай, якая захавала старажытныя, архаічныя рысы. Гэта звязана з тым, што яно аддзеленае ад іншых тэрыторый разлеглымі балотамі і лясnымі масівамі.

Выстава будзе адкрыта да 28 лютага. Раней яна паказвалася ў Этнаграфічным музеі ў Варшаве. Надзея Саўчанка:

— Рэдка здараецца, каб мы паказалі на выставах за мяжой арыгіналы, як тут. Гэта як наш калядны падарунак для жыхароў Падляшша, асабліва для мясцовых беларусаў.

Спадарыня куратар адзначыла:

— Першае, што кідаецца ў нашы вочы, гледзячы на фатаграфіі, гэта яркасць сцэн, якія зафіксаваў Сербаў. Відаць, што сяляне яму давяралі. Ёсць меркаванне ў Беларусі, што да кастрычніцкай рэвалюцыі ўсё сялянства было беднае, занядбанае. Аднак, гледзячы на фатаграфіі, можна ўбачыць, што так не было. Заўважыць можна адносна багатыя дамы і дагледжаных людзей.

Прысутны на вернісажы суарганізатар выставы, дырэктар Культурнага цэнтра Беларусі ў Варшаве Эдуард Швайко падкрэсліў у гутарцы з намі:

— Гэтая выстава мае значэнне, калі гаворка ідзе пра зацікаўленасць Беларуссю ў турыстычным сэнсе. Палессе з'яўляецца адной з такіх тэрыторый, якая прыцягвае замежных турыстаў. Гэтак жа, як і сто гадоў таму, так і цяпер гэта выключны рэгіён са своеасаблівай, непаўторнай субкультурай жыцця.

Андрэй Ляхоўскі, дырэктар Падляшскага музея сказаў «Ніве»:

— Каштоўнасцю гэтых здымкаў з пункту гледжання сучаснага гледача з'яўляецца адсутнасць фоташопа. Гэты аўтэнтызм не карэкціруецца тэхнікай, няма рэтушы. Ёсць на іх нейкія нязначныя зажаўценні, невялікі перакос кадра, але гэта не мяшае. Гэта нават дадае ім вартасці. З песні «Polesia czar», якую спявалі ў польскіх, пагранічных дамах, гэтага чару ў свядомасці маладых з нашага боку мяжы засталося мала. Загаловак песні, які выкарыстоўваецца ў якасці назвы выставы, спрычыняецца да нейкіх сантыментальных водгаласаў у паляках. Гэтыя фатаграфіі паказваюць сапраўднае зачараванне Палессем, тае Атлантыды, да якой рукой падаць. Палешукі жылі там у поўнай гармоніі з прыродай. Паказаны яны на гэтых карцінах пры працы, падчас сустрэч або пазіруючыя да фатаграфіі, яны глядзяцца як людзі абсалютна шчаслівыя, не чакаючы, што да чаго-небудзь павінны спяшацца. Іх шчасце, як відаць на фотаздымках, заключаецца якраз у тым, што яны на Палессі.

## Шкло з Бярозаўкі

Другая выстава — «Дызайн у шкле. Шклозавод Нёман» з'яўляецца выставай з калекцыі Дзяржаўнага гісторыка-археалагічнага музея ў Гродне і Адкрытага акцыянернага таварыства «Шклозавод „Нёман"» у Бярозаўцы. Падляшскі музей у Беластоку ў 2013 годзе прадставіў выставу «Нёманскае Арт-дэко». Паказана было на ёй прыкладное шкло, выраблена на шклозаводзе «Нёман» у 1920-1930-я гады. Гісторыя шклозавода «Нёман» бярэ свой пачатак у канцы дзевятнаццатага стагоддзя, калі ў 1891 г. Юлій Столе і Вільгельм Краеўскі заснавалі суполку і ў маёнтку Устронь каля Навагрудка пачалі дзейнасць, арандуючы гуту, у якой рабілі піўныя бутэлькі. Партнёры ў наступныя гады рашылі разбудаваць і ўвесці тэхнічныя навінкі. Заснавалі «Новую гуту», так названую ў адрозненне ад старога завода, вядомага як «Старая гута». У сярэдзіне 1890-х гг. у пасёлку Бярозаўка пад Лідай паставілі трэцюю гуту. З 1923 года завод пачаў працаваць як акцыянерная кампанія Шкляныя гуты Юлія Столе Нёман С.А., і сталі сучасным заводам на лідзіруючай пазіцыі ў польскай шкляной прамысловасці. Тут ствараліся нёманскае мастацкае шкло, якое вылучалася арыгінальнымі дэкаратыўнымі матывамі і колерам. Пасля вайны, каляровыя і бясколерныя шкляныя вырабы і крышталь выраблялі па памяці на ўцалелых даваенных жалезных формах і шклярскіх прыладах. Алена Жарына, галоўны захавальнік Гродзенскага дзяржаўнага гісторыка-археалагічнага музея ў Гродне:

— Мы прадставілі каля ста экспанатаў. Паказваем арт-аб'екты, зробленыя са шкла, якія не прадаюцца ў крамах, аўтарскія творы. Мы хацелі прадставіць увесь працэс стварэння шкла на працягу ўсіх гадоў. На жаль, вырабаў з усіх перыядаў мы не маглі тут паказаць. Тым не менш, паказалі на ёй розныя тэхнікі многіх мастакоў. Шэраг прымененых метадаў быў ацэнены на міжнародных выставах, не толькі ў савецкі час. У музеі налічваецца каля дзвюх тысяч работ, якія былі зроблены на шклозаводзе «Нёман». Ёсць з рубяжа XIX і пачатку XX стагоддзяў, і такія, якія рабіліся пасля апошняй вайны. У савецкі час была пры заводзе цэлая школа мастакоў, якія працавалі ў шкле па розных метадыках, вядомых ва ўсім Савецкім Саюзе і за яго межамі. Сёння так шмат мастакоў пры гуце няма, але надалей працягваюць гэтую традыцыю і выраб-ляюць унікальныя прадукты, так мастацкія, як карціна ці скульптура.

Цікавінкамі на выставе з'яўляюцца шкляныя келіхі з выявамі Леаніда Брэжнева, зробленыя з нагоды XXX-годдзя Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі, ці Юрыя Гагарына ў пілотцы з чырвонай зоркай. Выстава будзе адкрыта да канца сакавіка. Дырэктар Ляхоўскі падчас падвойнага вернісажу сказаў:

— З музейнымі цэнтрамі ў Мінску і Гродне на працягу многіх гадоў супрацоўнічаем вельмі цесна і прыязна. Убачыўшы шматлюдную прысутнасць на адкрыцці абедзвюх выстаў, думаю, што яны ў Беластоку доўгачаканыя.

**Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА**



# Ханука — светлае свята

Снежаньскай раніцай павіншавалі з Ханукай усіх вучняў крынскай школы прадстаўнікі вучнёўскага самаўрада. Да незвычайных, першых у гісторыі школы такіх віншаванняў далучалі салодкія булачкі.

Дзяцей I-III класаў прывялі пад упрыгожаную ёлку і сказалі чакаць госця, які пакажа ім жыдоўскае свята. Большасць дзетак, не беручы пад увагу мясцовага фальклору ці казак Міцкевіча, ніколі раней пра жыдоў не чула. Нехта пахваліўся, што быў з бацькамі на жыдоўскім могільніку і бачыў там параскіданыя камяні.

— Ці вы бачылі жыда? — запытала дзяцей Люсі Лісоўская — прадстаўніца Жыдоўскай канфесійнай гміны ў Варшаве на Беласток і Падляшскае ваяводства і старшыня Цэнтра грамадзянскай адукацыі Польшча-Ізраіль. — Пагляньце на мяне, я — польская жыдоўка. Ці выглядаю інакш чым вы? Жыды гэта палякі, беларусы гэта палякі і татары таксама палякі. Мы ўсе тут палякі.

Зразумець гэта даволі складана не толькі дзецям, але і дарослым.

Так у жыдоўскім мястэчку Крынкі пачаліся першыя ў пасляваенным перыядзе святкаванні Ханукі.

— У вас Божае Нараджэнне, а ў нас Ханука, — тлумачыць спадарыня Лісоўская. — На Хануку дзеці атрымліваюць падарункі і гуляюць — круцяць воўчок званы дрэйдл. Іграюць, у асноўным на цукеркі.

Галоўным элементам васьмідзённага свята Ханукі з'яўляецца святло. У кожнай хаце на спецыяльных падсвечніках павінны паліцца свечкі ў колькасці адпавядаючай колькасці святочных дзён плюс адна свечка-дапаможніца. Дапаможніца заўсёды знаходзіцца па-сярэдзіне падсвечніка. Першую свечку разам з дапаможніцай запльвалі ў нядзелю. З кожным днём на падсвечніку свечак прыбывала. Гасіць іх не дазвалялася, павінны выпаліцца да канца.

Чаму менавіта святло?

Калісь у Іерусаліме стаяў вялікі і прыгожы жыдоўскі храм. Як вядома, жыды і хрысціяне вераць у адзінага Бога. І вось аднойчы старажытныя грэкі і рымляне рашылі заваяваць Іерусалім. У жыдоўскія храмы паганскія акупанты пачалі ўводзіць сваіх бажкоў. Бог жыдоў перамог паганцаў і прыгожая святыня вярнулася ў рукі яе законных уласнікаў. У жыдоўскім храме, як і ў царкве, заўсёды павінен гарэць агонь. Без алейнай лампады ніякая малітва не адбудзецца. Што рабіць, храм адкрыты, лампады няма, дзе здабыць алей? Адзін з прыбыральшчыкаў храма знайшоў капельку алею, якая гарэла роўна восем дзён. Менавіта восем дзён трывае вытворчасць алею. Вестка пра алейны цуд хутка разышлася па горадзе і вось такім чынам паўстала свята Ханука.

На Хануку неабходна з'есці нешта смажанае на алею, а найлепш салодкае. Найчасцей гэта драждажавыя аладкі, пончыкі ці дранікі са смятанай і цукрам.

Апрача святочных, драждажавых булачак, купленых школай, удзельнікі сустрэчы атрымалі сціплыя падарункі ад шаноўнай госці Люсі Лісоўскай.

**Тэкст і фота Іаанна ЧАБАН**


Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Мне хацелася напісаць па-беларуску!

Ад гадоў у конкурсе «Дэбют» першыя ўзнагароды належаць дзяўчатам. Чаму хлопцы застаюцца ў іх цяні? Пра гэта мы спыталі ў Грышкі Саковіча. Грышка, шасцікласнік з Нараўкі, меў адзін адказ:

— Бо ім не хочацца!

Прыняць удзел у літаратурным конкурсе ён палічыў прыгодай. Пра што хацеў сказаць у сваіх вершах? Пра сваю вёску Новае Ляўкова, пра тое, што людзі ў сяле ведаюць адны адных, пра тое, што разам складаюць адзін свет, і што моладзь дапамагае старэйшым бабулям (!).

Пытаем, што яшчэ падабаецца яму ў вёсцы. Грышка, як кожны хлапец у яго ўзросце, любіць спорт. Вольны час праводзіць у святліцы, дзе гуляе з сябрамі ў тэніс. Але ёсць у яго яшчэ адно захапленне — кніжкі:

— Найбольш люблю гістарычныя кніжкі, — заяўляе хлапец.



Гімназістка Карнелія Барэчка мае свой «уласны свет». Гэта яе пакой. Кожны прадмет мае тут сваё месца і важную ролю. Свядомасць свайго месца дапамагае глянуць ёй шырэй на свет і дацаніць цуд жыцця. Карнелія родам з лясной мясціны Тарнопаль. У жыцці марыць стаць ветэрынарам, лекаваць звяроў і дапамагаць хворым жывёлам. Адкуль думка?

— Часта са свайго акна я бачу, як з лесу выходзяць сарны, — кажа.

Глядзіць на іх з адчуваннем братэрства. Гэта страшна, калі людзі страляюць па звярах для пустой забавы ці спорту. У адным вершы Карнелія піша пра пацукоў. Яны разумныя і прыгожыя — як кот, сабака ці нават конь. Яна сама мае трох пацучкоў. Называюцца яны Клеа, Рыкі і Эмму. Ці можна іх напалохацца, крычаць? Не, гэта нездаровая перабольшанасць.

У літаратурным конкурсе прыняла яна ўдзел чарговы раз і толькі зараз атрымала вылучэнне. Гэта доказ, што нельга адступаць пасля першай паразы. Цяперашняе вылучэнне моцна яе цешыць. Гэта штуршок для таго, каб лепш пазнаць беларускую літаратурную мову...

Нараўка ўражвае сваёй шчырасцю. Многія канкурсанты заявілі, што ўдзел у «Дэбюце» дапамагае ім разумець прыгожасць беларускай мовы, на якой «самі пішуцца» рыфмаванкі. Калі закончаць навуку ў сваёй школе, далей пішуць па-беларуску і прымаюць удзел у «Дэбюце». І галоўнае — умеюць расказаць пра сябе і свае творы на беларускай мове.

**Зорка,**
**фота Ганны КАНДРАЦЮК**

*Рыгор САКОВІЧ*
*ПШ у Нараўцы*

## Вёсачка

*Мая вёсачка малая.*
*Тут усіх я знаю*
*І з кожным размаўляю.*
*Калі трэба, дзеду памагу*
*І бабулю праз вуліцу правяду.*
*Тады я цешуся, гуляю,*
*Што старэйшым*
*у жыцці памагаю...*

*Карнелія БАРЭЧКА*
*Гімназія ў Нараўцы*

## Зямля

*Зямля гэта кропка ў сусвеце.*
*А столькі на ёй усяго адбываецца.*
*Шмат яе акіянамі заліта,*
*а там дзе суша*
*жывуць людзі.*
*Звяры таксама маюць сваё месца.*
*Хаця Зямля не мае арэола,*
*то і так яна для мяне святая.*

Міра ЛУКША

## Лістоўніца

Скідае ліст на зіму
адзіная хвойка ў свеце,
і так з паўтысячагоддзя
галінкі ёй чэша вецер.
Мяккай іглiцы пучочкі
сыплюцца восенню долу.
Каля тысячагодкі,
каля нашай роднае школы
лістоўніцы дрэўцы садзілі.
Ды школы гоман вясёлы
замоўк не на тысяча-хвілю.
Ды дрэва каласкі выпускае,
і жаночыя круглыя шышкі,
цвіце з кожным радасным маем,
ці еўрапейская яна ці сібірская,
ці японскай яе называем....
Тутэйшая, зіма ёй нястрашная,
хоць вецер у голлі ёй свішча.
А, можа, таго дачакае,
што стане салідным дамішчам,
якога ані снег, ані ліўні
сцен не разбураць здаровых,
а дома – і людзі, і печы,
і кніжкі, калыска, абрус...
У хаце драўлянай сардэчнай
моцны расце беларус.

## Вершы Віктара Шведа



### Святочная хвароба

— Пане доктар каханы,
Дапамога пажадана:
З маім родным таткам
Нешта неўпарадку.

Пераапрануўся небога
Ён у дзеда старога
І чамусьці паўтарае
Што ён Святым Мікалаем.

### Добры дзень

Настаўніца пытаецца
Вучня Марціна:
— Як людзі вітаюцца
Цяпер на пустыні?

— Па-мойму гэта будзе, —
Падказвае Арсень, —
Вітаюцца там людзі
Словамі: Добры цень!

## УВАГА КОНКУРС! № 02-16

Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку” да 17 студзеня 2016 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

### Загадкі з роднай хаткі

**Што за такія чатыры пары,**
**Што за такія чатыры сястры:**
**Першая — назбірае вады,**
**Другая — арэ і сее.**
**Трэцяя — грэе і росціць плады,**
**Чацвёртая — есці ўмее.**

**Адказ на загадкі № 50-15: чортапалох.**
**Узнагароды, кашульку з лагатыпам Радыё Рацыя, выйграла Іаанна Нікіцюк з Бельска-Падляшскага. Віншуем!**

# Далоў, курыная памяць!



Чаму так хутка забываем вершы? У час нашых школьных візітаў сустракаем сотні дэкламатараў. Усе імі ганарацца: настаўнікі, бацькі, арганізатары конкурсаў! Горш, калі спытаеш у іх пра верш, які яны гаварылі ў час конкурсу. Тады атрымліваецца параза па поўнай праграме. Амаль ніхто не памятае! Яшчэ больш для іх дзіўнае пытанне пра аўтара. Быццам не разумеюць, што хтось напісаў іх вершык. Словам — адразу забываем усё, што адбыліся!

Гэтыя прыкольныя словы пра дэкламатараў пішам таму, каб усвядоміць недахопы сучасных вучняў. Яшчэ трыццаць-сорак гадоў таму амаль усе вершы з падручніка трэба было вывучыць на памяць. Не для конкурсаў, а проста для ацэнкі. Многія памятаюць іх па сённяшні дзень. Я сама сустрэла шмат людзей, якія хадзілі ў школу яшчэ ў пачатку ХХ стагоддзя, пры цары. І яны, хоць мінула шмат гадоў, памяталі аўтараў і вершы са школьнага часу. Калі хто не верыць, хай спытае пра гэта ў сваёй бабулі, прабабкі ці прадзеда!

Але не ўсе нашы вучні такія. Наталька Маркевіч з бельскай «тройкі» звычайна засаромілася, калі аказалася, што ў класе амаль ніхто ўжо не памятае конкурсных вершаў. Наталля рашыла ратаваць гонар класа. Паколькі мы ўспаміналі Віктара Шведа, яна адразу прыгадала некалькі вершаў юбіляра і прачытала іх з памяці перад цэлым класам. Усе білі ёй гучныя бравы! Наталька падняла настрой у класе і таму стала нашай гераіняй!

**Зорка, фота Ганны Кандрацюк**

## Добры дзень, Зорка!

Хачу расказаць пра школьную экскурсію. Не так даўно вучні і настаўнікі Пачатковай школы ў Новым Корніне наведалі скансэн у Скарышэве, непадалёк Нарвы.

Мы пабывалі ў этнаграфічным музеі «Хата» Міхала Фільяновіча. Глядзелі выставу старых прадметаў штодзённага ўжытку: ручнікі, макаткі, вышываную вопратку. Былі там таксама літургічныя прадметы, старыя дакументы, грошы, карты. Уласнік музея многа расказваў пра гісторыю мясцовасці. На канец на вогнішчы мы пяклі каўбаскі, а таксама гулялі ў беларускія гульні.

Нам было прыемна паслухаць жывую беларускую гаворку ўласніка музея. Думаю, што варта было наведаць музей у Скарышэве.

Оля Чабай
ПШ у Новым Корніне




Малюнак Наталлі Ляўчук

## ЦІ ЁСЦЬ ПРАЎДА У СВЕЦЕ?

*(беларуская казка, пачатак у № 51)*

Пайшлі чалавек, воўк і лісіца на тое месца, дзе ўсё пачалося.

— Вось, — паказвае чалавек, — тут я ваўка спаткаў, тут яго ў мяшок схаваў.

— Так, так, — кажа лісіца, — зараз будзем дазнанне рабіць.

Узяла мяшок, пакруціла-пакруціла яго перад сабою і кажа:

— Нешта ты чалавеча, не тое гаворыш... Хіба ж пан воўк мог улезці ў гэты мяшок?

— Ад страху не толькі ў мяшок — у табакерку ўлезеш, — адказвае воўк.

— Як суддзя, я гэтаму не веру...

— Не верыш?! — агрызнуўся воўк — гэльц! — і ўскочыў у яго.

— Ну, цяпер верыш?!

— Але, — маргае лісіца чалавеку, — цяпер добра бачу, што мяшок якраз цэлы па ваўку. Застаецца толькі мацней завязаць.

Тут чалавек, доўга не думаючы, узяў і завязаў мяшок.

— З пана ваўка, — смяецца лісіца, — таксама нядрэнны каўнер будзе!

Падзякаваў чалавек лісіцы за справядлівы суд і кажа да ваўка:

— Ну вось, а ты казаў — няма праўды ў свеце. Ёсць праўда!

Ускінуў ён мяшок на плечы і панёс дахаты — шкуру знімаць.

## Польска-беларуская крыжаванка № 02-16

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 50:**

Свет, не, крыкун, лек, прыз, прымак, крот, ура, ласы, апал, прусак, голуб. Ліпа, снег, век, клуб, прас, проса, крытык, Рым, мыза, купал, Ра, кнігалюб.

Узнагароды, аўтаручкі «ценкапісы», выйгралі **Ружа Марчук** з Новага Корніна, **Наталля Ніканюк, Віялета Смалюк** з Арэшкава, **Вікторыя Гаць, Марлена Лабаноўская, Кацярына Лаўрашук** з Бельска-Падляшскага, **Габрыся Госцік, Пятро Банцарэвіч, Габрыся Госцік** з Міхалова, **Карнелія Барэчка** з Нараўкі. Віншуем!

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Kartka | Historyk | | Stół | Szoł / Sens | | Książka | | | |
| List | | | | | | | Zakątek | Traktor | |
| | | | | | | | | | |
| Modrzew / Stół | | | | | | | Może | Urszula | |
| Sens | | | | | Wiązka / Sporo | | | | |
| Język | Zuch | | Żeby | Szkoła | | | | | |
| | | | | Ma | | | Jar | | |
| | | | | Ręka | | Jan | | | |
| Jar | | Botanik | | | | | | | |

**На памяць УСІМ замучаным, расстраляным, спаленым, вывезеным у час вайны — на 70-годдзе яе пераможнага заканчэння.**

Марыя САШКА

# GRANDE VALSE BRILLANTE

частка III

Дзед Іаакім прыйшоў з горада толькі са жменькай солі і кілаграмам цукру. Бледны... Увесь тросся... Плакаў!.. — Дзеванькі вы мае, родныя!.. Бяда-та якая!.. Вы ж ведаеце: паміж двума рукавамі нашай Нараўкі, паміж двума мастамі, каля млына-электроўні нашай, стаіць гэткі невялікі хлявок, шопкабарак... Туды загналі ўсіх нашых местачковых жыдоў, яны там з труднашчамі памяшчаліся, іх сілай запіхалі-замыкалі!.. Здалося мне, я быў недалёка, што стары Цынглер мне нешта рукой ад дзвярэй паказваў-тлумачыў-сказаць хацеў, а, вось, яго Рахелі і Сары я не пабачыў!.. Што ён мне хацеў паказаць?!. Няўжо ў хаце, пры вывадзе іх забілі?.. Іх гналі цэлай таўпой, адзетых, раздзетых, без нічога, у іх хлеб і яду адбіралі на вуліцы!.. Падумайце! Вада вакол гудзіць, а ты не нап'ешся!.. Я булку хлеба быў кінуў, што купіў, кайзеркі-булачкі паднёс да донькі Борухавай — што дзетак вяла-трымала за ручкі — ды ад немца прыкладам па спіне дастаў!.. Ён булкі нагамі растаптаў!.. Стрэльнуць у мяне намерыўся!..

Нікога з нашых туды не падпускаюць, сцерагуць!.. Які там дзіцячы візг-стогн стаіць, д-з-е-т-а-н-ь-к-і!.. Хлеў той там, здаецца, танцуе, зараз перавернецца, разляціцца, х-о-дз-і-ць хадуном аж дах варушыцца, вось-вось — абрушыцца-заваліцца!.. Падлюгі, чаго яшчэ мучыць?!. Страляў бы, паганец ты ашалелы, ці дзе вёз бы ў даль якую! Чаго бязбожнічаеш, гэта ж што — не людзі?!. Дзяцей лякаеш — есці не даеш! Няўжо сваіх не маеш?!.

Не згадаеце, каго немчугары прынудзілі жыдоў з хатаў выганяць?!. Але ж т-а-к! — Васіля і Пракопа, іх хтосьці немцам «камуністамі» назваў, не — не жыды пэўна!.. Саветчыкаў гэтых учора вывалаклі з надлясніцтва, жонак іх да жыдоў далучылі, усадзьбу ўсю лясную там падпалілі!.. А мы ўчора ўсе думалі — адкуль стоўп чорнага дыму над Пушчай нашай валіць?.. Мы тут на водшыбе і мала што ведаем-знаем!..

⁂

Не паверыце вы, саколікі вы мае, што яшчэ сёння ў горадзе нашым, мястэчку пушчанскім с-т-а-л-а-с-я!.. Што з людзьмі нашымі зрабілася, усімі, праваслаўнымі і католікамі прыключылася!.. Як народ адзічэўашалеў-блекату наеўся-атравы нахлябтаўся!.. Зноў б-е-с-ы, ш-а-й-т-а-н-ы ў людзей усяліліся поўныя, б-е-л-з-е-б-у-б-ы страшэнныя, з-в-е-р-с-к-і-я, зубаскаліцтвы!..

Я тады, зоўсім нядаўна, быў абалдзеў, дзіву дзіваваўся, вачам не верыў, калі савецікі ўцякалі перапалоханыя, немцамі неспадзявана засцігнутыя ў нядзельку святую, чэрвеньскую!.. Калі суседзі нашы, як аказалася, хлынулі ў салдацкія лагеры, пакінутыя рускімі, «багацелі» лыжкамі, міскамі, сякерамі, піламі, малаткамі, катламі, падушкамі, пасцеллю!.. Рвалі — адзін перад другім — каб больш!.. Навучыліся тады!.. Чужое браць, красці!..

І цяпер — к-і-н-у-л-а-с-я наша гэта ненаедлівая зграя дзікіх сабак п-л-я-н-д-р-а-в-а-ц-ь жыдоўскія хаты!.. Як Ты, Хрысце, у-с-я-г-о г-э-т-а-г-а НЕ караеш а-д-р-а-з-у?!. Тумульт гэты, дзівадла гэткае дапускаеш?!. Гром з неба, вогнішча тут жа ніспашлі!.. Бачыш Ты іх?.. І немцаў, і н-а-ш-ы-х, т-а-к-с-а-м-а — як гэтыя прышэльцы — безобразных, нечалавечых! Гіенаў, шакалаў дз-і-к-і-х!.. Во, немцы, як і тады, пры лагерах! — стаяць, р-а-г-о-ч-у-ць! Пальцамі тычуць, ад смеху амаль падаюць-забаўляюцца! Фатаграфуюць гэтую ч-э-р-н-ь нашу, пякельную, дзіявальскую, якая яшчэ, ва ўцесе, і зубы радасна с-к-а-л-і-ць!.. Немцы слоўна гаварылі: — цягніце-валачыце, і так, хутка, гэта ўсё пакінеце, і сваё аставіце! Дзе бо хто з дымам пойдзе — астатак залішыце! У Нямеччыну вас адпраўяць, працаваць жа вы н-а-н-а-с п-а-в-і-н-н-ы, полнішэ швайнэ!..

А сёння, бабы местачковыя, ды і мяшчухі-паны даселяшнія-родненькія вы мае, Верачка і Надзін — валаклі шаўковыя коўдры і пярыны са склепу Іцка Грохмана!.. Неслі і — падалі!.. Ад Натана, што Гінзбург з Усходняй — у мяшках — боты!.. Ад Сары Гутман — якіясь абразы-малюнкі, чайнікі-міскі па тратуары губілі, лыжкі ці відэльцы!.. Сцёпка Кашыньскі, гэты што сына Зыгмунта мае, разам з ім — ад Давіда Бра́уна — бочку следзяў кацізі!..

Стэфка, Шапялёва, чамусьці спазнілася — першае-лепшае ўжо, відаць, забралі — на плячах несла, адкульсь, калаўротак з воўнаю ці нейкія блузкі са спадніцамі!.. Францішак Весялоўскі з жонкаю (яшчэ ж і паздараваліся са мною, я ім месца ўступіў, крыкнулі мне: «Што стаіш, зяваеш, Вінярскі? Табе нічога не трэба?») пруцалі (адкульсьці з недалёк, відаць) чымсьці набітую велічную шафу!.. Караліна Букоўская, ведаеце — краўчыха з Беластоцкай, што сын у войску прапаў у Гданьску, тарабаніла — падаючы! — агромнае бярэмя розных сукенак, відна ад Рахелі Конштадт!.. Я дарогу даваў, то на маставую сходзіў, то на ходнік уступаў, калі гэтыя «вандроўнікі» плылі-ехалі-вохкалі-пацелі!.. Раман Дубіньскі — яшчэ яму мала, сталяру слаўнаму-калясніку! — што ўсё жыццё вазы гатовіў-прадаваў са славаю і людской удзячнасцю — з сынамі і дачкой, пакрыкваючы, каб «асцярожна!», «не гапцеся, разаб'еце!» турзаў велічэзнае люстра, што стаяла ў цырульні Аарона Букшпана, пад царквою блізка, дзе і мы стрыгліся ўсе, мужчыны нашы, са мною!.. Я стаяў — акамянелы! Сваіх суседзяў НЕ пазнаваў, а і яны мяне як бы не прыкмячалі, а я ж стаяў і кожнаму з іх перашкаджаў! Яны проста н-а м-я-н-е йшлі, як бы і НЕ бачылі, без вачэй будучы, «с-в-а-і-м», «багаццем-скарбам» занятыя!..

Адно п-е-к-л-а!.. Ва ш-т-о (бо не ў к-а-г-о!) м-о-ж-а, спасобен з-м-я-н-і-ц-ц-а ЧАЛАВЕК!.. Хрысце Спасе, Дзева Прасвятая! — Чаму ВЫ м-а-ў-ч-ы-ц-е?.. Тут жа, ц-я-п-е-р г-э-т-а. Караць — Паліць — Біць трэба! Госпадзі!.. Бо — Чалавек — с-к-а-ц-і-н-а-й с-т-а-н-е!.. Не дапускай, Божа! Бо ўжо г-э-т-а ўсё! І вуліцы нашы! І горка і хлеў над рэчкай! Гэта не Адам і Ева, гэта не Авель і Каін, гэта не Народ Твой, Ізраільскі, што ад Цябе няраз адступаў-адварочваўся!.. Спасіцелю — пабач !.. Бо зверы другіх звераў на мяса рвуць-кусаюць — ды і толькі, каб наесціся, НЕ для забавы-забойства!.. А гэта ў нас — ш-т-о? Што лагеры? Што гэта зладзейства з дамоў ізраільцян тваіх, Божа, што яны над рэчкай млеюць-уміраюць, ды і што самі н-е-м-ц-ы?!. Чаму м-а-ў-ч-ы-м, Гаспадзіне над Людзьмі і Светам?!. Навучы — я-к б-ы-ць! — каб Ч-а-л-а-в-е-к-а-м і астацца!.. Жах усюды, вагонь, смерць!.. Свет грэшны, Хрысце, але Т-ы ж М-і-л-а-с-ц-і-в-ы!.. Не дапусці, каб ЧАЛАВЕК — СКАТОМ стаў!..

⁂

Учора-пазаўчора я «Апакаліпсіс» Іаана Багаслова чытаў, гэтак старонка адкрылася — думаю, па Волі Божай! — як бы я меў ведаць, што наша, сённяшняе, Гармагаддон страшны, наш пушчанскі і я пабачу, перажыву! І не толькі гэта, але і пра іншае, не менш страшнае, пачую!..

Я гэта на трох мовах прачытаў, кнігі маю, па-славянску-руску-польску, каб ляпей уясніць-зразумець-уцяміць!.. Ды так вось, чуў я гэткае слова каліс страшнае, што т-а-к б-у-д-з-е пры канцы свету, а ён, мабыць, дзяўчаты, і прыйшоў, і н-а-с-т-у-п-а-е, раз людзі а-з-в-я-р-э-л-і!.. І немцы, і н-а-ш-ы, тым болей!.. Людзі с-а-м-і яго т-в-а-р-а-ць, прыбліжаюць, п-р-а-в-о-д-з-я-ць! Канец свету прыбліжаюць, с-а-м-і!.. Бо няможа Гасподзь, нават для а-д-н-а-г-о гэтага нашага п-у-ш-ч-а-н-с-к-а-г-а — маўчаць, нас і свету НЕ пакараць!.. Саветаў, немцаў, аказваецца тут нам м-а-л-а, мы сваё пекла, бочкі свае са смалой, распальваем!.. Вось, Біблія наша Святая, вось пра н-а-с, дзеткі, Пушчу нашу, што Бог кажа:

«Суть бо дуси демонстии творяще знамения, иже исходят к царем всея вселенныя, собрати я на брань в день той великий Бога Вседержителя. Се гряду яко тать; блажен бдяй и блюдый ризы своя, да не наг ходит, и узрят срамоту его. И собра их в место нарицаемое еврейски Армагеддон» (16, 14-16).

«A są to duchy czyniące znaki — demony, które wychodzą ku królom całej zamieszkałej ziemi, by ich zgromadzić na wojnę w wielkim dniu Wszechmogącego Boga. Oto przyjdę jak złodziej: Błogosławiony, który czuwa i strzeże swoich szat, by nago nie chodzić i by sromoty jego nie widziano. I zgromadzono ich na miejsce, zwane po hebrajsku Ar-Mageddon».

— Тут і далей яшчэ, вось, што ёсць, што і ў нас таксама, у ноч гэту, у мястэчку нашым было!.. Бо раскажу зараз і пра другое наша гарадское, не менш страшнае, бесаўскае пекла!.. Паслухайце: пра нас гэта, пра ноч нашу:

«Wówczas pojawiły się błyskawice, głosy, gromy i wielkie trzęsienie ziemi, jakiego nie było, odkąd jest człowiek na ziemi: takie trzęsienia ziemi, tak wielkie». (16, 18).

— Гэта, дзеці, была наша апошняя ноч пушчанская!.. Калі грамы, бліскавіцы і наша неба апаясалі!..

⁂

Калі і мы ў сябе, днеська, заснуць у ноч, доўга, заснуць ніяк не маглі, калі неба супраць зямлі — праўдзівей: н-а-а-б-а-р-о-т — стала, як аказалася, а Хрыстос Руку Сваю супраць нас, тут, п-а-д-н-я-ў, як бачна!.. Калі грукаталіся-біліся над намі, з сабою, грымоты і бліскавіцы з ветрам шалёным, калі да карэнняў, самі сабе, і акрузе, кланяліся нават найменшыя дрэвы Пушчы нашай, у стадніне — успалашыліся коні, і р-в-а-н-у-л-і на пляц праз адкрытыя — бо жара! — дзверы стайні, разваліліі свае боксы, пакалечыліся, разнеслі на кавалкі драўляны — што ад стадыёна — плот, паркан! Уляцелі — пад дождж, буру, лівень патопны, на сядзячых там, ляжачых савецкіх палонных! Мясілі іх, у цемраве, капытамі, пераляканыя да тла бліскавіцамі, грукаценнем грому!.. Дажджом патопным! Разгрукаталі і новую, з калючага дроту, агароджу ад вуліцы, што быў наказ паставіць палонным!.. І — п-а-н-е-с-л-і-с-я ў лес, па вуліцы, што вядзе ў нас да касцёла!.. Старанавалі і ўсіх нямецкіх салдат-стражнікаў!..

За коньмі, у цемраву, хто-куды, п-а-б-е-г-л-і, абы далей адсюль, і савецкія в-я-з-н-і!.. У л-е-с!.. У ч-ы-с-т-а-е п-о-л-е!.. У Пушчу цёмную, незнаёмую, такую сёння злавешчую!.. Ляскатаўшую водгукамі нябеснага вагню — п-а-т-о-п-у! Асталіся толькі смяротна параненыя і мёртвыя!..

Гэта быў пякельны ратунак для тых, хто м-о-г б-е-г-ч-ы! Для тых, хто ад трох дзён не меў у роце ні кроплінкі вады, ні кусенятка хлебнай якой крышыначкі, хто павырываў тут, наўкругі сябе, зельца ўсякае, крапіву, асот, лебяду, хто дзякаваў н-е-б-у (з малітвай ці без, яны ж — савецкія!), ш-ч-а-с-л-і-в-ы-я! — што дождж п-і-л-і, кроплі л-а-п-а-л-і прыгаршнямі, рады, давольныя!..

У-ц-е-ч-к-а!.. Але куды, як далёка?.. То ж ноч, і дарогі ніхто не знае, навокал немцы!.. Мо дзе й хто, на ранак, куды і дойдзе-дапаўзе, а каго й і выдадуць нашы лахмотнікі, што зладзеяшкавалі па жыдоўскіх хатах!.. Шчэй грошай папросяць у паноў-немцаў!.. А салдаты ж — у савецкіх мундзірах, зразу іх спазнаюць, сляпы адзначыць!.. Яны ж не гавораць па-польску і нават нашага тутэйшага говару беларускага не ведаюць!.. У хвіліну спазнаюць, хопіць дзе хто, пераадзетыя!.. А нашы ж — як? Хто да хаты с-м-е-р-ць с-в-а-ю возьме?.. Вось, як, калі да нас?.. Ратаваць бы трэба — а вы? Г-а-т-о-в-ы? Жанчыны мае мілыя?.. Вы як? Гатовы, бабанькі, на смерць? Чалавека спасаючы?.. Калі пастукае хто?.. М-а-ў-ч-ы-ц-е! Нічога не кажаце! В-е-д-а-ю! На віселіцу пойдзеце — ратаваць будзеце!.. Радзі трох хлопцаў нашых, знаю, і Вані няма, і Стэфка, і Антошы!.. Мо і іх дзе хто прыхіліў?.. Хоць бы Максім, гаспадар наш, з'явіўся, а то і яго панясло ў Свіслач, а немцы кішаць на дарогах!.. Ну, які ратунак жонцы афіцэра — які жыў у нас? Як Максім даедзе з цяжарнай? Сваякі ж нашы яе прымуць, Вольга-та наша якраз акушэрка! Але Максім сам, відна, на пагібель падаўся, і яе не спасе — і сам зубамі заляскоча! Дурніца цэлая — гэты план яго ў ваенны час!..

— Дзядуля, — сказала Надзін, — няўжо ты цяжарную віламі бы прапароў, бо савецкая? Дзе ёй тут у нас схавацца, мястэчка ж знае, яе бачыла!.. — Так, унуся мая, мяне ў люцыпары не запісуй, не супастат я нейкі!.. Ці я супраць яе?!. Я толькі гавару — і нам бяда, і ёй няшчасце! Нябось і афіцэра свайго яна больш не пабачыць, мо ў Пушчы ляжыць — тут закапаны!.. Але ж бо хто іх, саветаў гэтых, сюды запрошваў?..

— Дзядусь, у нас справа!..

— Дзетка, гэта й наша справа была! Бо й нас яны ў «граждан своих советских» сілай жа запісалі! Рай абяцалі сатварыць! На колькі яго нам хапіла? Пачалі ж зараз у Сібір вывозіць, чужых жа «граждан»!...

— Дзядусь, у нас труднасць, скажыце як?..

— І я кажу, кабеткі вы мае, хлопцаў нашых у сваю армію пагналі! І наш Стэфан над Буг паехаў, а ці вернецца, а не забілі?!. Армія — яна ж не наша! І мы не ізнія! Мы «тутэйшыя»! Так-так, мы з беларусаў, але н-а-ш-ы-х, княжа-літоўскіх, з віленскіх! З Мінскам не звязаных, хоць пра іх там Магілёў ці Гомель чулі!.. Дзе наша моладзь цяпер, з-пад Драгічына ці Сяматыч, там жа на другім беразе Буга, за лугамі былі-стаялі н-е-м-ц-ы, усю Польшчу па той бок запаланілі а цяпер і ў нас смерць сеюць!.. І першых мы не прасілі, і гэтых не чакалі!.. Як вернуцца нашы хлапчукі адтуль, калі Антоша наш з Варшавы яшчэ ад 39-га не дайшоў-не даехаў!.. Маладыя косці ў зямлю ложацца і старым жыцця няма!.. Немцы на ўсход пайшлі, Брэст-Гродна — пэўна заняты! Той Мінск даўно гарыць, а яны на Маскву Крамлёўскую гатовяцца!

— Дзедка, дай нам слова!..

— А хто вас трымае?.. Пачакайце!.. А як нам быць у мястэчку нашым?.. Табун конскі гэты ў нас з салдатамі, што растаптаныя капытамі каля канюшні ляжаць! Недабітых немцы кончаць! У дробязь растаптаных, раскавалкаваных, раненых — жывых яшчэ — у яму зваляць!.. Госпадзі, смерць якая бывае! Ты на вайне а гінеш не ад куль-снарада, а ад капытаў конскіх, бешаных!.. А дзе цяпер гэтыя ўцякінеры — адзін Бог знае хто ўратаваўся!..

— Дзядусь, мілы, разгаварыўся ты, слова не ўставім!.. У нас а-д-з-і-н е-с-ць!..

— І вы маўчыце?!. Хто — савет? Салдат? Царыца Нябесная! І да нас Армагеддон прыйшоў!.. Спасе, Хрысце Ісусе! Дзе ён?!.

— Ну, рускі ён, дзедка, і што нам цяпер з ім?.. Прыпоўз за ноч якась, лесам цягнуўшыся, на наш агарод патрапіў!.. Далей не пойдзе, доктара трэба, жывот яго — адна рана! Кроў з балотам запеклася. Мы там трохі перамылі!... Не жылец ён, відна, без доктара! Але што? Немцам здаць?..

— Доктар? Вы што? — загаласіў дзед Іаакім. — Крыньскага нашага, местачковага? Да рускага клікаць? Доктару ж саветы паўсям'і недзе пад Мурманск ці ў Якуцію нейкую запрапасцілі!.. Сам цудам уцалеў — што доктар відна!.. Ён жа першы нямецкага бургаміскра і Einsatzgruppen, што па жыдоў нашых прыйшлі, спаткаў!.. С-а-м-і лячыць якась б-у-д-з-е-м! Судзьба яму — тады і выхадзім! На смерць яму аднак — і Крыньскі не спасе!.. Вядзіце!..

— Ну, не галасіце! Дзе ён?.. Ну, і добра,

працяг ☞ 9

# Ляўкова пад акупацыяй


Фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

**Размова з Аляксандрам РЭЕНТАМ з Новага Ляўкова, народжаным у 1930 годзе ў Старым Ляўкове.**

**— Ці вядома Вам, калі паставілі „новую” школу ў Старым Ляўкове?**

— Ведаю. Яе паставілі пры саветах.

**— А пры санацыі яе не было?**

— Не, пры санацыі толькі „старая” школа стаяла: разабралі яе даўно, мо з дваццаць гадоў таму.

**— У мой час у старой школе жыў загадчык, тады быў ім Уладзімір Каролька. Ці да вайны таксама жыў у старой школе настаўнік?**

— Да вайны быў тут Бабяк, кіраўнікам школы ён быў.

**— Толькі адзін Бабяк навучаў да вайны, ці было ў Ляўкове больш настаўнікаў?**

— Было больш, напрыклад Галынец вучыў. А школа была таксама і ў нашай хаце, дзе цяпер мая сястра Вера жыве. Я таксама сюды хадзіў.

**— Цераз сенцы, з дзвярэй у дзверы?**

— Так як цяпер там ходзіцца. А пры саветах у тым класе, што ў нашай хаце быў, зрабілі „красный угалок”.

**— А што ў тым „красным угалку” было?**

— Забавы ладзілі, то бібліятэка тут была, кніжкі выдавалі.

**— Ці толькі ў Вашай хаце ляўкоўская школа знімала памяшканне, ці таксама ў іншых хатах?**

— Не помню, каб вучылі тады ў іншых хатах.

**— А як гэта сталася, што саветы паставілі новую школу?**

— Ну, на гэта пытанне я не ўмею адказаць. Пры саветах яе паставілі, а пасля вайны выканчылі.

**— І пры немцах гэтая новая школа была?**

— Не толькі яна, побач яе стаялі і іншыя будынкі. Тут пры рове будынак стаяў, далей гараж стаяў, і тут, дзе цяпер калодзеж, таксама будынак стаяў; апошнія будынкі немцы паставілі, Рысек Сікорскі з Нараўкі майстрам быў.

**— У мой час каля новай школы святліца стаяла, нядоўга, пасля яе знеслі...**

— Вось там былі тыя нямецкія гаражы, а пасля вайны будынак абабілі і зрабілі святліцу.

**— А як прыйшлі саветы, то яны сваіх настаўнікаў прывезлі?**

— Не, надалей Бабяк вучыў, і Івацік з Ахрымоў вучыў, і Ціта з Ляўкова. І яшчэ адна была настаўніца, але, здаецца, пры саветах яе яшчэ не было, а пры немцах яна навучала нямецкай мове. Пры немцах навучала яна толькі нямецкай мове, больш тады нічога не вучылі, а навучанне вялося ў хаце Урбаноўскага, дзе цяпер Засімы жывуць.

**— А што сталася з самім Урбаноўскім?**

— Ён вёў краму. Калі прыйшлі саветы, палічылі яго „крупным торговщиком” і абклалі вялікім падаткам. Ён адказаў, што не мае такіх грошай. І забралі яго, і не вярнуўся. А жонка з сынам выехала ў Беласток. Ён, магчыма, і з Беластока быў, па тавар у Беласток фурманкай ездзіў, напрыклад, па селядцы.

**— Ці ў Ляўкове стаяла нейкае савецкае войска?**

— Не, не было.

**— А ці быў тут нейкі сельсавет?**

— Быў, тут між старой школай і царквой, дзе цяпер Віця Садоўскі жыве. І я помню, хто ў тым сельсавеце быў.

**— А гэта з Ляўкова былі там людзі?**

— З Ляўкова. Прадсядацелем быў Сяргей Харкевіч, ён жыў на калёніі, мой дзядзька Цімох быў сакратаром. І яшчэ адзін, Пякарскі, быў. А як прыйшлі немцы, то яны паўцякалі.

**— А ці пасля вызвалення яны вярнуліся?**

— Як хто. Мой дзядзька вярнуўся, але выехаў у Расію. А той Сяргей хаваўся, але пасля немцы аб'явілі, што хто здасца, то не будуць чапаць. І ён здаўся немцам, але яго забралі ў лагер, пасядзеў там нейкі час і вярнуўся, і выехаў у Расію. А той Пякарскі нікуды не выязджаў, але калі саветы адступалі, ён ішоў у напрамку Бялок каля Нарвы, бо адтуль была ягоная жонка. Адступала савецкае войска, а ён да іх: „Знаеце што, салдаты, трэба цвёрда стаяць, дзяржацца...”. То іх камандзір выняў пісталет і застрэліў яго.

**— У час акупацыі ў ляўкоўскай школе стаялі немцы. Ці многа іх было?**

— Каля трыццаці чалавек.

**— А як з імі нашы дагаворваліся, можа ў іх ліку былі сілезцы або чэхі і яны мо неяк па-польску ўмелі?..**

— У нас былі такія, што па-нямецку ўмелі. Ну, неяк дагаворваліся. То ж у нашу хату заходзілі, выпівалі...

**— Значыць, можна было з імі неяк згаворвацца?**

— Так, бо то не былі паліцаі, толькі вайскоўцы. Да дзяўчат хадзілі, на вячоркі прыходзілі. Аднойчы, калі фронт яшчэ далёка ў Расіі быў, каля Ленінграда, зайшло да нас некалькі немцаў і адзін з іх кажа: „Гітлер капут”. А нашы адказваюць: „Най, Сталін капут”. А ён цвёрда, што Гітлеру капут. Яны ўжо ведалі, як справы на фронце складваюцца.

**— Ці тыя вайскоўцы праводзілі тут нейкія акцыі?**

— Хадзілі на партызанаў, але мірна тут было.

**— Але ж немцы забілі Вашага суседа Жэню Рэента...**

— Яго і Аляксея Зялінскага забілі паліцаі з Нараўкі. А ў нас стаялі вайскоўцы і як фронт набліжаўся, то яны звычайна пакінулі Ляўкова. Яшчэ наймалі людзей, каб іх у Белавежу завезлі; мая сястра, напрыклад, іх фурманкай вазіла. А так то сюды прылятаў самалётам з Белавежы іхні інспектар.

**— А дзе ён прызямляўся?**

— Тут аэрадром быў, зараз за вёскай, за Максімюкамі. Сюды біплан прылятаў, з Белавежы, і з Мінска. І то даволі часта.

**— Яны тут жылі, а адкуль яны бралі харчаванне?**

— Тут была кухня, немцы мелі свайго кухара, а харчы ім прывозілі.

**— А прадуктаў з вёскі яны не бралі?**

— Не, аднекуль прывозілі.

**— У час вайны немцы павысялялі людзей з навакольных вёсак, між іншым, у Ляўкова. З якіх вёсак высялялі ў Ляўкова і дзе тыя людзі будаваліся?**

— Перасяленцы стаўлялі свае будынкі паміж Старым і Новым Ляўковам ды насупраць цяперашняга керамічнага завода, дзе цяпер блёкі — там галоўным чынам будаваліся Ахрымы. І Капітаншчыну сюды выселілі, і Галубы. І са Скупава сюды людзі перабіраліся, і з Міклашэва; бо ж Міклашэва спалілі. І са Слабодкі.

**— Немцы адступілі, а як сюды ўвайшлі саветы?**

— Нармальна, можа праз два ці тры дні. Тут, побач школы, масток быў, і цяпер ён таксама ёсць. І пад той масток немцы міны падлажылі. Але людзі пра іх ведалі і саветы тыя міны дасталі.

**— Вы кажаце, што немцаў вывезлі фурманкамі. А чым іх прывезлі?**

— Самаходамі і маторамі, а ўжо вывозіць іх тых машын не было.

**— А як рускія сюды ўступалі?**

— А ўсяляк: і пехатою, і самаходамі, і танкамі. Можа з тры тыдні ішлі і ішлі; хто іх ведае, адкуль яны браліся...

**— Я тут вярнуся да 1939 года. У некаторых вёсках стаўлялі тады саветам прывітальныя брамы. Ці ў Ляўкове таксама паставілі?**

— У Ляўкове не, але на Станцыі, і ляўкоўцы іх там віталі. Адзін тут быў такі, узяў вінтоўку, ударыў прыкладам аб зямлю і кажа: „О, дзе мой хлеб”. А прыйшлі саветы і тыя ўсе вінтоўкі пазабіралі.

**— А як саветы пагналі немцаў, ці яны зноў сельсавет у Ляўкове зрабілі?**

— У Ляўкове не, у Нараўцы, а войтам быў Валодзя Харкевіч з Міхнаўкі.

**— А калі пасля вайны ўсталяваўся тут нейкі парадак, напрыклад, як доўга людзі свабодна вазілі драўніну з лесу?**

— Нядоўга гэта трывала.

**— А вось цікава мне, ці многа лесу вывозілі ў час вайны. Ці саветы многа вывозілі?**

— Саветы вывозілі, толькі не ведаю куды. І нормы на людзей накладалі, і то такія, што трэба было з тыдзень часу рабіць. Мой бацька вазіў лес каля Бахуроў.

**— А немцы?**

— Яны паставілі тартак каля станцыі і вазілі туды лес ад Шымак.

**— А чым вазілі?**

— Самаходамі.

**— А фурманкамі не вазілі?**

— Пры немцах толькі самаходамі, цераз мост у Бандарах.

**— Ужо пры маёй памяці быў у Ляўкове пункт прыёму малака, дзе яго апрацоўвалі цэнтрыфугай. Ці да вайны быў такі пункт у Ляўкове?**

— Да вайны не было.

**— А калі людзі мелі якія прадукты на продаж, то куды іх прадавалі, можа жыдам?**

— Калі ў каго было больш кароў, было масла ці смятана, то ў Гайнаўку самі вазілі, на рынак. Сядалі на поезд і везлі.

**— А ўжо пасля вайны: што рабілі з тою адвіраванай смятанай?**

— Мой дзядзька вазіў на Станцыю, але каму ён яе здаваў — не ведаю.

**— Калі хто ў Ляўкове захварэў, то дзе шукалі лекара?**

— У Новым Ляўкове Міхал Жукоўскі жыў, ён хіба быў фельчарам у царскім войску, то да яго, калі трэба было, падаваліся.

**— І яшчэ адно пытанне: калі ў Старым Ляўкове паклалі брук?**

— Пасля вайны.

**— Дзякую Вам за расказ пра цікавае ляўкоўскае мінулае.**

**Гутарыў Аляксандр ВЯРБІЦКІ**

---

8 ☞ працяг

што ў хляўку, там зацішней, а калі знойдуць яго ў нас — і нам з ім дарога т-у-д-ы ж!.. Не сумуйце, усё ў Хрыстовых Руках! Калі нам смерць за савета — хутчэй спалучымся з хлопцамі нашымі, Ванем-Антошам-Стэфкам с-п-а-т-к-а-е-м-с-я! Бо, здаецца мне, жывыя б былі — дайшлі б ужо, час то ўжо ж доўгі-не малы!..

Пакуль што — немцам не да нас!.. Ратуйма байца!.. М-а-р-ш!.. Армагеддон, бацянькі, і ў нас Армагеддон!..

— Ага, чарнамазы ён! Па-нашаму гаворыш? Ты адкуль?.. З-пад Віцебска? Значыць, і нас разбярэш! Колькі ж гадоў табе, савет малады? 25?.. Хоць ты і бісурман камуністычны — п-а-в-я-р-н-і-с-я!. — да мяне жыватом!... Ну-у-у, нічога тут у цябе на жываце прыгожага, чалавеча! Кроў ды пясок, рана як калодзезь, але мо — не ўглыб вельмі пайшла?!.

— Кабеткі вы нашы, аптэчку нашу нясіце! Паглядзім там масці!.. Верачка, дзіця, палатна ўрэж, кужалю саматканага, льнянога, ачывіста, і мёд нясі, картофлю варану!.. Зелле патрэбнае я тут у хляўку сваім знайду!..

— Ну, генерал-палкоўнік, хто ты — мне ўсяроўна!.. Пацярпі — балець будзе!.. Прамыю, апалашчу, абвіну!.. Мужчынам будзь — не плач і не крычы! Мы тут на водшыбе — але апасацца трэба!.. Хто ведае?.. Бо, калі што — мы ў-с-е тут за табой Госпаду Богу прадставімся, хоць — мабыць — ты і не ведаеш, што ёсць Хтось Такі на Свеце! Без Якога нам усім х-а-н-а, малады ты мой савеце!.. Ну, што нам ц-я-п-е-р з табой рабіць?. Мы ж не сабакі, хоць ты і прыйшоў нас запалоніць!.. Ну — зацісні з-у-б-ы!.. Не, л-я-п-е-й — адкрый рот, ш-ы-р-э-й!.. Вось гэтага кійка паміж зубы вазьмі, каб языка ад болю не адкусіць!..

(працяг будзе)

# Дзевяностае
## Божае Нараджэнне

Аўтамабіль спускаецца з горкі быццам сані па снезе. Простая як дрот лясная дарожка паварочае налева насупраць памежнага стаўпа.

Адзінокі хутар знаходзіцца ўжо на Беларусі. Няёмка стаяць сто метраў ад хаты, да якой няма дарогі. Цікава ці нехта там яшчэ жыве. Але якое ж гэта жыццё, пакаранне нейкае, да таго бязвіннае. Налева ад адзінокай хаты знаходзіцца вёска Мінкаўцы калісь Адэльскай, сёння Шудзялаўскай гміны. Ёсць там касцёл, пабудаваны пасля вайны, калі адрэзалі людзей ад іх роднай, аддаленай на тры кіламетры парафіі ў Страдаўнім Адэльску. Уладыслава Варановіч верыць, што адэльскі касцёл пабудавала сама каралева Бона. З гонарам узгадвае свае хрысціны і вянчанне менавіта ў гэтым касцёле. Там таксама падыходзіла да першай камуніі. Як усе мінкаўчане Уладыслава штодзень карыстаецца беларускай мовай. Жыве ў вялікай мураванцы разам з сям'ёй унука. На жыццё не наракае, хіба толькі на яго даўжыню. Здзіўляецца, што святая зямелька носіць яшчэ такую, якой ужо больш за дзевяноста гадоў, бабу. Праўду кажучы, выглядае яна і адчувае сябе нашмат маладзей. На вуліцы смяецца, а плача толькі тады, калі ніхто не бачыць. А не бачаць яе ў маленькім пакойчыку вялікай, сучаснай мураванкі. У гэтым пакойчыку час плыве інакш. Ён быццам затрымаўся ў драўлянай, крывой шафе і тумбачцы, прывезенай мужыком, вечная яму памяць, з крынскага гета, у старым люстэрку, святой Ядвізе, святой сям'і ў Чэнстахоўскай Матцы Боскай.

Уладыслава моліцца да сваіх святых шчыра і моцна. Штодзень дзякуе за атрыманыя цуды вылячэння сямейнікаў ад раку. Не прапускае касцельных набажэнстваў, нават у хоры спявае. Так праходзіць дзень за днём, свята за святам. І вось чарговае, ужо дзевяностае Божае Нараджэнне. Пакойчык ужо прыбраны, нават ходнікі


Уладыслава Варановіч

памыла. На правай ускраіне канапы піраміда белых падушак, на левай — „Жыцце на горонцо" і танныя раманы. Усё гатовае. Усё ёсць.

— Калісь нават Пілсудскаму так добра не жылося, як жывецца нам цяпер, — сцвярджае Уладыслава. — Крама пад'язджае пад самую хату, а там мандарыны, агуркі, памідоры, прытым усё гэта ў снежні. Хто гэта бачыў, дзятулька мая!

Дзеці Уладыславы параз'язджаліся па шырокім свеце, адна дачка ўжо ад'ехала на той свет

— Ну што ж, трэба далей жыць і цешыцца прыгожымі хвілінамі, — мяркуе жанчына.

Такой хвілінай было, безумоўна, Божае Нараджэнне на Вавелі. Запынілася ў гасцях у дочкі, якая ўжо сорак пяць гадоў пражывае ў Кракаве. Пастырку вёў тады кардынал Вайтыла, пазнейшы папа рымскі Ян Павел ІІ. У святочную ноч асабіста ахвяраваў ён Уладыславе святую камунію.

У яе дзяцінстве Божае Нараджэнне было часам вялікай весялосці, дзеленай з дзедам, дзвюма бабулямі, бацькам, мамай, старэйшай сястрой Аннай, малодшымі Адэляй і Мальвінай і курамі на саломе ў адзінай, супольнай ізбе. Да свята Уладзя рыхтавалася дбайна. Пасціла па серадах, пятніцах і суботах, вырэзвала папяровыя фіранкі, рабіла саламяныя павукі. Хаінак ніхто тады не ставіў, толькі звычайны сноп у кут закідалі, а потым аддавалі яго жывёле, каб не хварэла. Клалі сена пад абрус, ставілі свечку і маліліся. Выбар святочных страў быў даволі сціплы. Пачыналі з аплаткі і куцці, званай тут панцаком. Панцаком частавалі потым курэй, каб не пакідаліся. Вайною панцак, кісель і кампот з сушу саладзілі адварам з цукровых буракоў. З рыбы быў толькі воляк — вада з бочкі з-пад селядцоў. Заўсёды найбольш смакавалі ламанцы — пшанічныя сухары з печы, заліваныя макам. За гэты мак аднойчы забралі Уладыславу на пастарунак міліцыі ў Шудзялава. А яна ўсё роўна не напужалася і сказала, што мак у агародзе сеяць будзе. Пасля вячэры залазілі на цёплую печку, там спявалі калядкі і чакалі пастыркі. На той жа печцы дзеці Уладыславы дачакаліся цукерак ад цёткі Мальвіны. Ой як яны цешыліся! Потым ішлі на пастырку ў запханы народам адэльскі касцёл.

Пасля вячэры міскі з недаедкамі заставаліся на стале. Іх даядалі на святочны сняданак разам з бульбяной бабкай і баранінай, так як свініна не была тут у модзе. Цесць Уладыславы трымаў пятнаццаць бараноў. Сушаным мясам абвесіў цэлае гарышча. Возьмуць тую бараніну, пакладуць у гаршчок, спякуць у печцы; як жа гэта смакавала! *Хто мял овцэ, тэн мял цо хцэ.*

Было і калядаванне. Вясковыя хлопцы і дзяўчаты хадзілі ад хаты да хаты са „жлубкам" і звяздой. Спявалі, у асноўным, „Буг се родзі", „Сьруд ноцнэй цішы" і „Пшыбежэлі до Бэтлеем". Але Уладыслава ніколі не калядавала. Мінкаўцы жылі калісь як дзве зусім чужыя вёскі, падзелены некалькімі метрамі незабудаванага абшару. Такая малая мяжа, прататып пазнейшай, больш маштабнай.

— Тут Саламы, а там ужо важнейшыя, разумнейшыя. Іх было нашмат больш. У нашым канцы стаялі трыццаць дзве хаты, а ў іхнім — шэсцьдзясят. Мы неяк з сабой не дружылі, яны нас там не прымалі. Прыходзілі калядаваць, пакуль іх нашы хлопцы не нагналі.

Сапраўдны балаган пачынаўся ў вёсцы на Сільвестра.

— Дзеўчыны варажылі, лілі воск па хатах, а хлопцы так да іх дабіваліся, бывала і вокны павыбівалі. Але найвесялей было пад рускімі. Тут на канцы вёскі была іх застава. Ой якія гэтыя хлопчыкі-бальшавікі файненькія былі. Прыходзілі да нас з гармонікам, танцавалі, спявалі „Жена найдёт себе другого, а мать сыночка никогда", а мы адпавядалі ім прыпеўкамі

„Цераз плот у гарод гнала я цялята, сюды-туды пагладала, дзе мілаго хата,

Цераз плот у гарод гнала я каровы, сюды-туды пагладала, дзе мой чарнабровы".

Уладзя не нагулялася да сыта, таму што рана аддалі яе замуж. А замужам, вядома, забавы няма. Мужык памёр, калі было ёй усяго сорак адзін год, якраз перад Божым Нараджэннем.

Сёння Уладыславе няма да каго ісці ў госці, усе сяброўкі даўно паўміралі. Засталіся толькі каляндар са Студзенічнай і „Жыцце на горонцо".

**Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН**




Кожны чалавек заўсёды лічыць сябе, сваё жыццё і сваю ўласную дзейнасць найцікавейшым за ўсё астатняе. Гэта зразумела, бо такое стаўленне да сябе і навакольных з'яўляецца падставай для самапавагі і ў той жа час, як бы не здавалася парадаксальным, падставай для павагі да іншых. Некаторыя людзі, прагнучы найбольшай самарэалізацыі, дасягаюць лепшых вынікаў у прыцягненні ўвагі да сваёй асобы, некаторыя — горшых. Аднак, калі чалавек становіцца асобай публічнай, яму бывае цяжка схаваць ад грамадскасці тыя ці іншыя звесткі, якіх бы ён не хацеў афішаваць. Каб пазбегнуць знікнення раней даступнай інфармацыі аб публічнай асобе, пэўна, у многіх краінах узнікаюць сайты-дасье, дзе можна завочна пазнаёміцца з палітыкамі, грамадскімі дзеячамі і іншымі людзьмі, якія ёсць альбо былі навідавоку.

У Беларусі, якая хоць і стаіць на ўскрайку цывілізацыйных трэндаў, такія сайты таксама ёсць. Адзін з іх — Belarus Profile, што месціцца ў інтэрнэце па адрасе **http://belarusprofile.com.**

Даны сайт мае даволі сціплае выяўленне і выглядае выключна як нейкая прэзентацыя ўдзельнікаў якой-небудзь канферэнцыі. Магчыма, гэта толькі пачатак, і ў недалёкай будучыні мы пабачым там цікавыя фотаздымкі ці відэа.

„Belarus Profile — гэта дырэкторыя ўплывовых асобаў Беларусі. Belarus Profile змяшчае біяграфіі людзей, якія робяць уплыў на жыццё ў Беларусі, у тым ліку палітыкаў, актывістаў апазіцыі, дзяржаўных чыноўнікаў, а таксама асобаў з навуковых колаў, бізнесу і грамадзянскай супольнасці. У планах выдання стаць найбольш аўтарытэтнай крыніцай біяграфічнай інфармацыі", — сцвярджаецца на старонцы „Пра нас", выйсце на якую знаходзіцца чамусьці ў правым ніжнім вугле цэлага выяўлення.

Згодна пададзенай там інфармацыі, сайт мае біяграфічны пошук, што, на думку ўладальнікаў, робіць яго каштоўным рэсурсам для кожнага, хто цікавіцца палітыкай, эканомікай і грамадствам Беларусі. „Біяграфіі падаюцца на беларускай, рускай і англійскай мовах і змяшчаюць асноўную асабістую інфармацыю, звесткі пра адукацыю і кар'еру, а таксама адпаведныя інтэрнэт-спасылкі. Каталог пастаянна папаўняецца — дадаюцца новыя біяграфіі і больш падрабязныя біяграфіі тых, каго найбольш часта праглядаюць наведвальнікі Belarus Profile", — запэўніваюць уладальнікі і распрацоўшчыкі сайта, якія па беларускай інтэрнэт-звычцы не называюць сваіх імёнаў. Пра сябе яны толькі паведамляюць, што даны праект ажыццяўляецца Цэнтрам Астрагорскага — арганізацыяй, заснаванай беларусамі, якія атрымалі адукацыю на Захадзе і жывуць у Беларусі і Еўрапейскім Саюзе.

„Нашы рэдактары адсочваюць прэсу і іншыя крыніцы, каб забяспечыць актуальнасць інфармацыі. Калі ваш профіль уключаны ў дырэкторыю і вы хочаце абнавіць інфармацыю, калі ласка, звяжыцеся з рэдакцыяй", — запрашаюць адукаваныя на Захадзе беларусы.

Што ж тычыцца раздзелаў сайта-дасье, то іх чатыры — „Дзяржава", „Палітыка", „Бізнес" і „Грамадства". Такое дзяленне падаецца крыху спрэчным, бо „Дзяржава" змяшчае і біяграфіі чыноўнікаў, і біяграфіі кіраўнікоў універсітэтаў, і нават топ-менеджараў авіякампаніі „Белавія".

Нягледзячы на недахопы, даны сайт будзе карысны сваёй даведачнай інфармацыяй, у прыватнасці для журналістаў.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

## Дата з Календара
Дата з Календара
Дата з Календара
Дата з Календара
Дата з Календара

### Загадкавы зыход беларускага пісьменніка



# 105 гадоў з дня нараджэння Уладзіміра Дудзіцкага

Беларускі паэт, празаік, публіцыст і перакладчык Уладзімір Дудзіцкі (сапраўднае прозвішча Гуцька) нарадзіўся 8 студзеня 1911 г. у вёсцы Дудзічы Ігуменскага павета (цяпер Пухавіцкі раён). Паходзіў ён з сялянскай сям'і. У 1927 г. прыехаў у Мінск, дзе скончыў сямігадовую школу, паступіў у сталічны педагагічны тэхнікум. Аднак адтуль, разам з іншымі быў выключаны як „нацдэм". Пры дапамозе Лукаша Калюгі і Уладзіміра Хадыкі ўладкаваўся на працу стыль-рэдактара ў газету „Савецкая Беларусь". Пазней працаваў у выдавецтве БелАН, адначасна займаўся на падрыхтоўчых курсах пры БДУ. Пачаў вучыцца на літаратурна-лінгвістычным факультэце. Аднак быў арыштаваны чэкістамі ў лютым 1933 г. У жніўні як „член контррэвалюцыйнай арганізацыі" і за „антысавецкую агітацыю" засуджаны да 3 гадоў савецкага канцлагера. Зняволенне адбываў у Новасібірску, Марыінску, Казахстане, Узбекістане. Пасля дазволу вярнуцца ў Беларусь жыў у Віцебску. Працаваў выкладчыкам беларускай мовы і літаратуры, экстэрнам здаў экзамены за курс педінстытута. У 1939 г. звольнены з педагагічнай работы рашэннем Віцебскага абкама КП(б)Б. Змушаны пакінуць Віцебск, а потым і Беларусь. Хаваўся ў Расіі. Напярэдадні вайны вярнуўся ў Беларусь.

У час нямецкай акупацыі Дудзіцкі жыў у Мінску, Барысаве. Займаўся культурніцкай дзейнасцю, працаваў загадчыкам аддзела культуры Мінскай гарадской управы (1941-1942). Пазней — кіраўнік Барысаўскага акруговага аддзела Беларускай Народнай Самапомачы. Увайшоў у склад БЦР, узначаліў аддзел прапаганды Беларускай Краёвай Абароны. У час вайны маці Уладзіміра Дудзіцкага забілі савецкія партызаны. Летам 1944 г. выехаў у Германію. Далучыўся да Камітэта вызвалення народаў Расіі генерала Уласава і ўзначаліў прапаганду фармавання беларускіх аддзелаў пры арміі Уласава, скончыў курсы прапагандыстаў, працаваў на нямецкай радыёстанцыі „Вінэта". Служыў у Міністэрстве прапаганды. Пасля капітуляцыі Германіі жыў у аўстрыйскім Зальцбургу, у амерыканскай акупацыйнай зоне. Пасля перасяліўся ў Венесуэлу, дзе заснаваў Беларускі камітэт. Падтрымліваў сувязі з беларусамі, пісьменнікамі-эмігрантамі ў ЗША. Вёў актыўнае ліставанне з Юркам Віцьбічам. У 1950 — пачатку 1960 гг. — галоўны рэдактар беларускай рэдакцыі радыё „Вызваленне" ў Мюнхене. З 1961 г. у ЗША, выкладаў рускую мову ва Індыянскім універсітэце ў Блумінгтане (штат Індыяна). Неўзабаве вярнуўся ў Венесуэлу. Сляды Дудзіцкага, вельмі цікавага і таленавітага чалавека, а таксама аматара жанчын і выпіўкі, губляюцца ў канцы 1970 гг. Паводле ўспамінаў яго жонкі Веры, верагодна, што ён не вытрымаў настальгіі, выехаў у 1972 г. на радзіму і бясследна знік у СССР. Яніна Каханоўская лічыла, што ён выехаў у Аргенціну, дзе было шмат прасавецкіх эмігрантаў. Тыя яго напалі і перадалі савецкім спецслужбам. Паводле ж меркавання літаратуразнаўца Лявона Юрэвіча, Дудзіцкі проста кінуў сям'ю дзеля чарговага захаплення жанчынай і чарговага пераезду ў іншую краіну.

У Беларусі Уладзімір Дудзіцкі па справе 1933 г. быў рэабілітаваны ў 1956 г. Першы зборнік творцы бясследна знік, хутчэй усяго спалены ГПУ. Другі збор паэзіі „Напярэймы жаданням" не быў выдадзены з-за вайны, прапала яшчэ шмат чаго. І толькі ў 1994 г. у ЗША была выдадзена літаратурная спадчына паэта.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Ліст у рэдакцыю

**26 снежня 2015 г.**

**ДОБРЫ ДЗЕНЬ, ШАНОЎНАЯ РЭДАКЦЫЯ!**

Пішу да Вас з досыць незвычайным пытаннем. Мяне завуць Ігар Ганчарук, я родам з Баранавіч. Здаецца, што Яша Бурш гэта мой далёкі сваяк: мая родная бабуля, Бокша Валянціна Ксенафонтаўна, была ягонаю стрыечнай сястрой. Справа ў тым, што я пачаў цікавіцца сваім генеалагічным дрэвам толькі ў 2010 годзе, прыкладна. Бабуля ж памерла яшчэ ў 1999 г. Ад сваякоў я даведаўся, што недзе ў Польшчы жыве стрыечны брат бабулі, з кім яна падтрымлівала сувязь. Той брат уцёк з Беларусі пасля вайны, бо баяўся, што савецкія ўлады будуць яго праследаваць за ягоную дзейнасць пад час вайны. Што за дзейнасць, дакладна сказаць пакуль не магу, бо сам не ведаю. Але штосьці звязанае з нацыяналізмам у добрым сэнсе гэтага слова, з беларускасцю. Саветы, вядома, маглі палічыць гэта за антысавецкую дзейнасць. Хаця, кажуць, што насамрэч нічога страшнага там і не было: ці то ўлёткі нейкія ён распаўсюджваў, ці то проста быў сябрам нейкае суполкі. Але ж ён вырашыў уцячы. Паехаў у Польшчу не з роднымі бацькамі, але з людзьмі, якія назваліся ягонымі бацькамі. Каб было лягчэй выехаць, дату нараджэння змяніў з 1925 на 1929 г., а сапраўднае імя — Іван Бокша (магчыма, Мікалаевіч, але я яшчэ не ўпэўнены) — на Ян Анісэровіч. У Польшчы ён пайшоў вучыцца ў мастацкую акадэмію і зрабіўся мастаком. Выстаўляўся шмат дзе, работы ягоныя ёсць у Музеі Пушкіна і Эрмітажы. Але Вам гэта, магчыма, вядома. У мяне ёсць ягоны адрас у Варшаве, я быў там у кастрычніку і ад суседкі даведаўся, што ён ужо памёр, але жонка жывая яшчэ. Прынамсі ўлетку была. Потым і ў інтэрнэце на адной старонцы ўбачыў пазначаныя гады жыцця: 1929-2007. А літаральна ўчора знайшоў інфармацыю пра тое, што ён яшчэ і Яша Бурш. Ён ніколі не прыязджаў у Беларусь, бо ўвесь час баяўся „помсты” з боку савецкіх уладаў. Толькі бабуля мая да яго некалькі разоў ездзіла. Далучаю два фотаздымкі, якія ён даслаў некалі. У Польшчы, здаецца, ён ніколі не выдаў свайго сапраўднага імя. Маё пытанне да Вас: ці ў Вас ёсць нейкія звесткі пра ягонае жыццё, фотаздымкі і г.д.? А можа нумар тэлефона ягонай жонкі? Бо колькі разоў я б да іх не заходзіў, яе не было дома. Ёй павінна быць 79 гадоў, згодна з дадзенымі з інтэрнэту. Ліст да яе я напішу, але не ўпэўнены, што ён трапіць да адрасата. Буду ўдзячны хоць за якую інфармацыю ад Вас.

З павагай
**Ігар Ганчарук**

* * *

**29 снежня 2015 г.**

Учора размаўляў з роднай сястрой маёй бабулі. Яна сказала, што Анісэровіч пад час вайны быў запісаны ў Беларускую самаахову, куды іх, тадышніх студэнтаў медвучылішча, запісалі добраахвотна-прымусова, здаецца. Вось гэты факт ягонай біяграфіі і палохаў яго вельмі. Ён і за жонку баяўся, каб ёй гэта не пашкодзіла, і таму яны не ішлі на кантакт амаль ні з кім з нашых сваякоў, акрамя маёй бабулі. Аказваецца, ён пісаў штосьці яшчэ тут, у Баранавічах. Была цэлая скрынка з яго вершамі, якую ён закапаў перад тым, як паехаў у Польшчу. Потым ён казаў пра гэтую скрынку сваёй роднай сястры, каб яна адкапала яе, але ці адкапала яна і што зрабіла — невядома. Цікава было б даведацца пра лёс Яна-Івана-Яшы.

З павагай
**Ігар Ганчарук**
э-майл: *ihancharuk86@gmail.com*

**Ад рэдакцыі:** Ян Анісэровіч — як успамінае Віктар Швед — быў *spiritus movens* пасляваеннага беларускага літаратурнага руху, адным з заснавальнікаў у 1958 г. літаратурнага аб'яднання, якое пазней прыняло назву „Белавежа”. У друку выступаў пад літаратурным псеўданімам Яша Бурш. Друкаваўся на старонках „Нівы” (да 1971 г.), у зборніку „Рунь” (Беласток 1959), у альманаху „Белавежа” (Беласток 1971), у штогодніках „Беларускі каляндар”, выдаваных Беларускім грамадска-культурным таварыствам.

У зборніку „Рунь” змешчана такая вось даведка: „ЯША БУРШ (Янка Анісэровіч) — нарадзіўся ў 1929 годзе ў Баранавічах. Закончыў Акадэмію Штук Пенкных у Варшаве. Працуе настаўнікам. Друкавацца пачаў у «Ніве»”.

Звяртаемся да нашых чытачоў, якія ведалі Яна Анісэровіча, дапамагчы ягонаму сваяку ў пошуках інфармацыі і здымкаў.





Бытам-Аджанскі, сакавік 1948 г.



Ленінград, 20 красавіка 1955 года

# 10.01 — 16.01

**(22.03. — 20.04.)** Неспадзеўкі, не заўсёды мілыя, але захаваеш халоднакроўе. Новыя якасці ў пачуццях. Змяні свой імідж — колер валасоў, зліквідуй радзімку. На працы выйдзеш на простую дарогу, хаця могуць вярнуцца мінулагоднія справы. 9-13.01. выклічаш добрае ўражанне на асобах, на якіх табе залежыць.

**(21.04. — 21.05.)** Неба прынясе табе ў студзені геніяльныя задумы для развою тваёй кар'еры. Будзеш мець шанцы на здабыццё новых умеласцей. Нагоды да хуткага ўзбагачэння! Найбольш дасягнеш на працы ці ў школе. 9-13.01. чакае цябе важнае заданне на працы — не падвядзеш. Ды настрой ненайлепшы — будуць турбаваць цябе сумненні і нейкая невядомая туга. З 15.01. пільнуй свае фінансы.

**(22.05. — 22.06.)** Сур'ёзна адносься да сваіх абавязкаў і законаў. Дбай аб сябе, мер сілы на намеры. Павольны росквіт пачуццяў. Добра дагаворышся з іншымі. Блізнюк без пары будзе мець нагоды да цікавых знаёмстваў, асабліва 12-16.01. На працы змагайся за павышэнне і большую зарплату. Без цяжкасцей заваюеш тое, што хочаш. Не займайся плёткамі, аж да 25.01.

**(23.06. — 23.07.)** Зоркі дададуць табе адвагі, каб пазмагацца за павышэнне. Запрашэнні да добрай забавы. Разглянься за магчымасцю ўласнага бізнесу. Добрая форма душы і цела. Але задбай аб халестэрын і сэрца. У пачуццёвым жыцці флірты і раманы; пазмагайся за асобу, на якой табе залежыць. Адазвуцца сябры — не адмаўляй ім дапамогі. 9-11.01. узлуе цябе нахабнасць тых, што схочуць улезці ў твае справы.

**(24.07. — 23.08.)** Увесь месяц будзеш адважны і рашучы. 13-17.01. можаш наладзіць добрыя кантакты, кантракты і карысныя дамовы. 9-13.01. наладзіш знаёмства на ўсе гады. Змагайся са сваім абжорствам. У фінансах без праблем, хаця без нейкіх асаблівых заробкаў. Не «падпадзі» на працы ці ў школе, лепш не сапернічай, рабі сваю работу. Калі чапляюцца, пастаў на сваім стале люстэрачка — яно адаб'е ад цябе ўсе прэтэнзіі (усё паправіцца пасля 21.01.). 9-12.01. праз твой дом пракоціцца тарнада — хтось блізкі наробіць глупстваў.

**(24.08. — 23.09.)** Спрыяльна для афармлення прафесійных спраў і ва ўстановах. Квадратура Венеры можа прымусіць цябе да неспадзяваных выдаткаў, нават да парушэння жалезных рэзерваў (знаёмыя могуць табе пазычыць — ведаюць, што вернеш). Заінвестуй у чырвоны кашалёк — ён прыцягне да цябе грошы! З усяго выйдзеш без паразы. Каханне ўжо цябе шукае. 13-17.01. Меркурый можа табе ахвяраваць лепшую пасаду або вышэйшыя заробкі.

**(24.09. — 23.10.)** Будзеш нервовы, усё будзеш прымаць да сваёй асобы. На шчасце ў канфліктах падтрымае цябе Венера. А Сатурн паможа здабыць паважанне ў радні і ў супрацоўнікаў. На працы поспехі, але менш часу на забаву і адпачынак — заставайся нават пасля работы. Да 14.01. не вагайся вырашаць важнага. Працуй цяпер лепш сола. Дацэніць цябе кіраўніцтва. Дбай аб сваё здароўе, цёпла апранайся, высыпайся, рэгулярна еж.

**(24.10. — 22.11.)** Тваё жыццё прыспешыць, будзеш мець энергію і волю для дзеянняў. Новыя знаёмствы, можаш нават выбрацца на нейкія абучэнні ці ў новую школу. Адважныя мары набяруць рэальнага кшталту. У каханні поспехі. На працы задавальненне, будзеш сарганізаваны і спраўны. З канфліктаў выйдзеш пераможцам. Мусіш толькі апанаваць эмоцыі; не шукай рызыкі, а спакою. Не злуйся і не зайздросць. Любі сябе самога! Кантралюй выдаткі. Сцеражы свой кашалёк як вока!

**(23.11. — 22.12.)** Удала ў кампаніі. 11-17.01. у публічным выступленні выступіш знакаміта! Кар'ера ў росквіце. Без апасак бярыся за справы, якія здаваліся нядаўна быць рызыкоўнымі. Поспех дадасць табе крылаў. Цёпленька ў пачуццях. 9-13.01. можаш добра пахудзець, толькі яшчэ і варушыся.

**(23.12. — 20.01.)** Дасканалы настрой і суперформа. Адкрыецца перад табою дарога да кар'еры. Да 13.01. разлічвай на дапамогу сяброў і радні. Але можа атакаваць цябе канкурэнцыя да 12.01. — пільнуйся! Ашчаджай!

**(21.01. — 19.02.)** Увесь месяц будзеш пад уплывам трыгону Урана з Сатурнам — дасягнеш чагосьці, што яшчэ нядаўна здавалася недасяжным. Удачы ў кантактах. На рабоце выйдзе на тваё. Удала ў фізічных працах і заданнях, якія патрабуюць засяроджанасці і цярплівасці. Можаш папрасіць дапамогі ў сяброў у нявыгаднай сітуацыі.

**(20.02. — 21.03.)** 13.01. незвычайныя сітуацыі, выпадкі і трапныя прадчуванні. Бярыся за амбітныя заданні. Вострая інтуіцыя — будзеш ведаць на што паставіць. Пазмагайся за лепшую працу, за чыёсьці сэрца. Апранайся згодна з надвор'ем.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# Адгаданка

1. муж іранкі, 2. слонімская рака, 3. горад між Орляй і Белавежай, 4. здымка на кінематаграфічную стужку, 5. перасол пад стол, а ён — на стол, 6. харвацкая выспа каля Рыекі, 7. музычны твор з некалькіх п'ес, аб'яднаных адзінствам задумы, 8. праверка, выпрабаванне, апытанне, 9. часцінка крыві, 10. Марк, жывапісец з віцебскім радаводам, 11. польская каралева з італьянскім радаводам.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — беларуская пагаворка.

**(ш)**

| | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | 1 | | 2 | 3 | | | | 4 |
| | 5 | | | | | | 6 | | | | | |
| | | | | 7 | 8 | | | | | | | |
| | | | | | | | 9 | | | | | |
| | 10 | | | | 11 | | | | | | | |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 51 нумара**
Вена, куст, Кюры, ніць, пі, руда.
Рашэнне: **Ад навукі спрытнеюць рукі**.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Лявону Федаруку** з Рыбал і **Казіміру Радошку** са Свебадзіцаў.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” - kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” - kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 300 egz.

# У палескай глыбінцы (29)




Кожны раз, калі я ішла ў кафэ-бар «Піца», не ведала чаго там спадзявацца. Мае роспыты пра азёрную рыбу відавочна бянтэжылі афіцыянтак. У іх красамоўным маўчанні быў адзін адказ: няма тут часу на твае выдумкі. Тое, што ў чорным спіску апынуліся мясцовыя рыбы і ракі, мяне асабліва не здзіўляла. Больш здзіўляла адсутнасць італьянскіх страў. Я ні разу не бачыла, каб хто заказаў піцу, лазанню, пасту з морапрадуктамі (frutti di mare) ці макарону з таматным соўсам...

З падобным недаверам тут ставіліся да ўкраінскіх прысмакаў. Абслуга прыкідвалася, быццам упершыню пачула пра ўкраінскі боршч. Гэты духмяны суп з чырвоных буракоў, фасолі, бульбы, морквы, часначку, прыпраўлены яшчэ для смаку кіслай смятанкай, можна заказаць у любым кутку Украіны. А тут круцілі галавой і паўтаралі: *Нэма такого!*

Сказаць што ў кафэ-бары «Піца» няма чаго паесці — грэх і блюзнерства. Амаль усе мужыкі заходзілі сюды на хвілінку, каб адным махам перакуліць сто грам. Той-сёй узіраўся яшчэ ў шкляны буфет, дзе красаваліся салодкія піражкі з крэмавай начынкай, прыаздобленыя грыбочкамі-чырвонагалоўцамі. Пасля з відавочным задавальненнем на твары выходзілі на вуліцу...

У першы дзень я сама намерылася скаштаваць піражок з грыбамі.

— Гэтыя ласункі пастаўлены дзеля настрою, — патлумачыла мне афіцыянтка.

— Яны з гіпсу?

— Не, з мінулага года.

Я пабаялася пытаць, дзе спяклі гэтую адмысловую «страву для вока». Ці не ў далёкім Кітаі?

Якраз палову страў у меню састаўлялі кітайскія супы з пакета. Другую палову — чыпсы, мініяцюрныя запяканкі і адагрэтыя катлеты... Мне дазволілі сфоціць піражок з грыбамі. Надта падыходзіў ён да палескай нізкі найлепшых смакаў. Дзеля фотасесіі дзяўчына дастала скамянелы кубік з-за шклянога буфета і з асцярожнасцю паставіла на верх прылаўка. Рух пры бары спыніўся. Усе глядзелі ў мой бок з недаверам ці сапраўды буду фатаграфаваць стары пернік. Чым жа ён заслужыў на такі гонар? Не лепш схадзіць у парк і сфатаграфаваць помнік Тарасу Шаўчэнку? Я адразу адказала на набрынялыя ў паветры пытанні:

— У нас такога няма!

* * *

Нідзе ў свеце няма такога настрою і гутарак як у дубровіцкім кафэ-бары «Піца». Я звычайна прыходзіла сюды вечарам пасля вяртання з глыбінкі. У бары сустракаў мяне адзін пастаянны вобраз. Ён заўсёды сядзеў у адным месцы за кубкам гарбаты і непрысутным зрокам глядзеў у акно. Кожнай раніцы я сустракала яго на тратуары ля майго гатэля. Тады мужчына прыкідваўся дзелавітым бізнесоўцам. Ён кружыў па цэнтры і на сцішанай ноце прапанаваў абмен валюты, проста з рукі. Разам з надыходам ночы валютчык губляў дзелавітасць і станавіўся бязмежна сумным дзядзечкам. Ён напамінаў падарожніка ў чаканні свайго цягніка, які па нейкіх прычынах спазняўся. Пачуццё адчужанасці падбіваў яшчэ яго габрэйскі выгляд. Я сакрэтна глядзела на яго і думала: цяжка жыць у чужой, нязведанай краіне...

Хоць не — дзіўны спакой і непрысутнасць прыносілі з сабой мясцовыя. Яны заходзілі ў бар кампаніяй, бралі бутэльку, займалі адзін столік і гадзінамі ўзіраліся ў плоскі экран тэлевізара. Хоць там паказвалі матч, ніхто яго не каментаваў, не хваляваўся, не брыдкасловіў. Быццам усё тое, што адбывалася на экране, было прыдуманай казкай.

У кафэ-бары «Піца» мяне таксама палічылі чужой і гэта быў яшчэ адзін доказ палескага сепаратызму. У адзін пасляабедні будзень я зайшла ў бар выпіць пшанічнае піва. А тут — шок. На месцы сумнага валютчыка выседжвала жаночая кампанія. Гэта былі першыя эмансіпанткі, якіх пабачыла я на Палессі. Залатазубыя цёткі распівалі бутэльку ды гучна абмяркоўвалі надта важную для сябе справу. Яны гаварылі пра хатнюю гадоўлю куранят. Разважалі, дзе дастаць добрую квактуху для купленых на рынку куранятак, каб яна вадзіла і сагравала іх пад крыламі. Ці можа лепш пасадзіць квактуху на яйках, каб сама выседжвала куранятак і пасля за сабой вадзіла. Тады нейкая гарантыя, што не пакіне малых...








Жанчыны распівалі бутэльку, усміхаліся ў мой бок залатымі ўсмешкамі і нешта шапталі. Пасля адна з іх выйшла з прапановай:

— Запрашаем да нас на сто грам.

Я не ведала што адказаць, проста заняло мову...

— Вы не гневайцеся, што як так гавару... — цягнула жанчына. — У вашым выглядзе ёсць нешта прыцягальнае. Вы такая прыгожая, сапраўдная ўкраінка!

— Я, я таго... — мне хацелася выправіць сказанае.

Але цётка ведала лепш:

— У нас няма так, каб жанчына сама прыйшла ў бар і заказала сабе куфель піва.

Цётка падала мне ў рукі кілішак гарэлкі. Мы чокнуліся і выпілі за знаёмства.

— Я — Ганна.

— Ой! Я *тожэ* Ганна!

* * *

У Дубровіцы вярнуўся мне смак на добрыя стравы. У магазіне прадавалі жытні хлеб з Беларусі. На рынку я купіла прысмак, пра які з сентыментам гаварыла пакаленне маіх бацькоў. Мова пра трыбух, вядомы ў нас як кіндзюк. Вяндліну сушылі хатнім спосабам, пад саламянай страхой. У сушанай куньпе, ператканай салам і паляндвіцай, адчувалася далікатная нота цвілі. Не менш настальгіі і ўспамінаў наклікала сушаная каўбаска. Яна смакавала дакладна так як колішняя каўбаса з вяськовай каморы, засушаная на высокім пруту пад бэлькай. Упершыню тут я скаштавала сухога вугра. Здзівіла мяне адносна невялікая цана гэтага рарытэту. Аднак у Дубровіцы ніхто асабліва не захвальваў сушаных вугроў. Яны для мясцовых былі нечым звычайным, як хлеб надзённы.

Пік кулінарнага шчасця сустрэў мяне ў сям'і бацюшкі Паўла і Святланы Дубянцоў у сяле Мрочна. Мяне пасадзілі за стол разам з мужчынамі, то-бок, бацюшкам і найстарэйшым сынам. Як першую страву матушка падала боршч са свежага шчаўя. У сярэдзіне быў здаровы кусок смажанага ліня, якога на Палессі завуць «барскай рыбай». Страву красілі густой смятанкай. За тым прыйшла чарга на смажаныя акуні, карасі і плоткі з мясцовага возера. Да гэтага матушка падала салацік са смажаных грыбоў і палескае сто грам. Далей былі салодкія пірагі і шакаладныя цукеркі... Ну, смаката, аб'ядзенне, проста не расказаць...

— Вы так штодзень здарова харчуецеся? — спытала я.

— Тут жа нічога асаблівага няма, — здзівіўся бацюшка. — Гэта звычайны, будзённы абед селяніна. А рыбу я сам сёння раніцай злавіў...

(працяг будзе)

Тэкст і фота Ганны КАНДРАЦЮК

ISSN 0546-1960